● выдаецца са жніўня 1917 г.

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

● кошт 3000 рублёў

28 лютага 1998 г. субота, № 45 (23396)






# ЗВЯЗДА


## ВЫПРАМЕНЬВАЕ АБРАЗ ЦЯПЛО

**У брэсцкім Свята-Нікольскім саборы сталася незвычайнае — зацепліўся абраз Мікалая Цудатворца, які знаходзіўся ў алтары.**

Выпраменьваць цяпло абраз пачаў два тыдні таму, аднак да апошніх дзён гэты факт не абнародаваўся. Пасля абвяшчэння прыхаджан аб цудзе ў царкве быў адслужаны малебен у гонар Мікалая Цудатворца.

Цяпер у храме — стоўпатварэнне: людзі ідуць, каб дакрануцца да выпраменьваючага цяпло абраза. Яго далейшы лёс і месцазнаходжанне будзе вырашаць мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, якому паведамілі аб незвычайнай з'яве ў брэсцкай царкве.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ, БелаПАН.**

## КАНТРАБАНДНЫ ГРУЗ СПІРТУ ЗАТРЫМАНЫ

Напярэдадні выхадных супрацоўнікам Барысаўскага РАУС удалося «вылавіць» кантрабандны груз, якія перавозілі на двух «МАЗах» грамадзяне Грузіі. Спыніўшы машыны паблізу вёскі Ланкоўшчына, работнікі МУС зазірнулі ў дакументы, згодна з якім і шафёры перавозілі піва. Аднак змесціва 200-літровых бочак аказалася куды мацнейшым бяскрыўдным. Аказалася, што ў 400 бочках перавозіўся спірт. Груз, зразумела, пакуль не пакінуў межаў рэспублікі.

**Ігар ГРЫШЫН.**

## ЯК У ТЫМ КІНО

У брэсцкай гасцініцы «Інтурыст» спыніўся грамадзянін Украіны. Вось да яго ў нумар і ўварваліся двое невядомых.

Стукнулі пісталетам па галаве, звязалі рукі, рот заклеілі скотчам і, пагражаючы нажом і пісталетам, запатрабавалі ключы і дакументы на аўтамашыну. Для большага эфекту адзін з нападаючых выстраліў з пісталета.

Стрэл пачулі і паклікалі ў міліцыю.

Але аператыўнікі затрымалі бандытаў не ў гасцініцы, а каля яе, калі тыя стараліся адчыніць «Мерседэс». Бандытаў арыштавалі імгненна, яны нават не паспелі выкінуць пісталет.

Затрыманымі аказаліся жыхар Брэста і яго пляменнік з Кіева.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**



# Што ты, Іване, зрабіў?

Рыштунак у руках майстра — неабходны працяг ягоных рук, каб пераўтвараць мёртвае дрэва ў жывыя чалавечыя твары. Здаецца, рукі майстра не ведаюць стомы нават пад цяжарам сякеры, адзінага інструмента, неабходнага яму як мастаку. Сякера (самая звычайная, купленая ў краме) прынесла славутасць звычайнаму вясковаму бібліятэкару з палескага сяла Цераблічы.

Іван Супрунчык... Мастацтвазнаўцы лічаць яго унікальнаю з'яваю нацыянальнай культуры. А гэтая катэгорыя людзей, як вядома, у каштоўнасцях толк ведае. І сапраўды, ні прэса, ні энцыклапедыі не абдзялілі ўвагаю талент народнага майстра. Ён удзельнік дзесяткаў выставак, пленэраў, яго работы ў шматлікіх музеях.

Але унікальнасць скульптара, натуральна, не ў тым, што ён стварае толькі адной сякерай, так і не звыкшыся з дарагімі стамескамі і мініяцюрнымі разцамі, а ў дзіўным канчатковым выніку творчага працэсу (які для Івана ніколі не прыпыняўся) — у кожнай з яго болей як тысячы работ.

Іван жыве быццам бы па-за часам сваёй значнасці для краіны. Ніколі не гнаўся за славаю, а калі і меў, дык не мог як след ёю распарадзіцца. Майстэрні няма, як і не было. Як раней вазіў свае скульптуры ў Столін на выставы рэйсавым аўтобусам, гэтак і сёння дабіраецца. Нават тэлефона не заслужыў...

Усё багацце, якое мае для яго сэнс — дом, сям'я, маці — салдацкая ўдава, ды яшчэ дарагія аднавяскоўцы-землякі. Нядаўна ў Цераблічах адкрыўся музей, дзе, нарэшце, сабраны разам некалькі дзесяткаў работ Супрунчыка. Першы на Палессі музей аднаго мастака. Пакуль неафіцыйны, без статусу. Часам суседзі наведваюць музей, каб «ацаніць» Івана і каб пазнаць сябе ў скульптурах. І пазнаюць.

**Анатоль КЛЯШЧУК.**
**Фота аўтара.**

*Вёска Цераблічы, Столінскі раён.*

## ТОЛЬКІ ФАКТ

Сёння планету насяляюць 5,5 мільярда чалавек. Чаканая **сярэдняя працягласць жыцця** «залатога мільярда» насельніцтва Зямлі (багатых людзей, сукупны даход якіх складае каля 90 працэнтаў даходу ўсяго насельніцтва свету) — 60—80 гадоў. Астатняга свету, г. зн. 4,5 мільярда чалавек, — каля 45 гадоў. А **сярэдні ўзрост сучаснага чалавецтва** — каля 50 гадоў.

Агульная сума аб'яўленых **статутных фондаў** беларускіх камерцыйных банкаў, паводле даных Міністэрства статыстыкі і аналізу, дасягнула 2,9 трыльёна рублёў.

Статыстыка паведамляе, што **самай разбуральнай** з вядомых з пачатку новай эры катастроф была серыя землятрусаў, якія адбыліся ў Кітаі не так даўно — 27 ліпеня 1976 года, калі загінула 1 мільён 150 тысяч чалавек.

У студзені **рублёвая грашовая маса** ў рэспубліцы скарацілася на 4,4 працэнта — з 42 да 39,7 трыльёна рублёў: у яе саставе на 1,2 трыльёна рублёў зменшылася маса наяўных грошай, якія знаходзяцца ў абарачэнні.

*З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ*

## «РЭВІЗІЯ» ДЛЯ НЕКАТОРЫХ ПАРТЫЙ МОЖА ЗАКОНЧЫЦЦА СУМНА

**Начальнік упраўлення грамадскіх арганізацый Міністэрства юстыцыі Міхаіл СУХІНІН:**

— Паводле афіцыйнай статыстыкі, Беларуская партыя працы (Бухвостаў) мае 647 членаў, Жаночая партыя «Надзея» (Палевікова) — 1029, Партыя «Славянскі Сабор Белая Русь» (Сяргееў) — 647, з якіх сапраўдных членаў партыі толькі 511 чалавек, Партыя камуністаў беларуская (Калякін) — 10429, Камуністычная партыя Беларусіі (Чыкін) — 7011, Беларуская рэспубліканская партыя (Арцішэўскі) — 547, Рэспубліканская партыя працы і справядлівасці (Нятылькін) — 524, Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя «Народная грамада» (Статкевіч) — 1729, Беларуская партыя «Зялёны свет» (Грамыка) — 953, Аб'ядная грамадзянская партыя (Багданкевіч) — 2500, Беларуская сялянская партыя (Лугін) —1647, Партыя Беларускага народнага фронту (Пазняк) — 2338. Астатнія наогул звестак не падалі і атрымалі пісьмовыя папярэджанні.

***Поўнасцю інтэрв'ю Ю. Ляшкевіча з М. Сухініным чытайце ў наступным нумары.***

## КУРСЫ АБМЕНУ
### НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 27 ЛЮТАГА 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Мінск (0-17) | | | | | | | |
| Абсалютбанк | 43800 | 45000 | 24100 | 24800 | 7150 | 7350 | 263-6080 |
| Белаграпрамбанк | 43300 | | 23700 | | 7100 | | 228-5716 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 32740.00 | | 18041.55 | | 5410.00 | | Курс на 10.02.1998 |
| Цэнтрабанк Расіі | 6.0720 | | 3.3436 | | 10000 BLR - 1.3195 | | |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| пазабіржавы міжбанкаўскі курс | 46100 | 46300 | 25446 | 25563 | 7622 | 7657 | |

*На кантролі ў Прэзідэнта*

## СЛУЖБОВЫЯ АСОБЫ, ЯКІЯ ДАПУСЦІЛІ НЕАБГРУНТАВАНАЕ ПАВЫШЭННЕ ЦЭН, БУДУЦЬ ПРЫЦЯГНУТЫ ДА АДКАЗНАСЦІ

У адпаведнасці з даручэннем Прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі прадстаўнікі Савета Міністраў і Камітэта цэн Мінэканомікі правялі праверку дзейнасці суб'ектаў гаспадарання, якія дапусцілі ў студзені гэтага года рост цэн на тавары і паслугі больш чым на 2 працэнты.

Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў апараце ўрада, парушэнне дысцыпліны цэн устаноўлена на Мінскім заводзе халадзільнікаў. На новыя мадэлі гэтай бытавой тэхнікі, прызначаныя для рэалізацыі на ўнутраным рынку, цэны павышаны на 9—17,9 працэнта. Узраслі цэны на тэлевізары як НВА «Гарызонт», так і ВА «Віцязь» на 8—15 працэнтаў.

У ходзе праверкі таксама ўстаноўлена, што цэны на друкаваныя выданні за студзень павялічана на 11,5 працэнта. На 30 працэнтаў павысіліся тарыфы на праезд у гарадскім пасажырскім транспарце.

Усяго ж у мінулым месяцы органамі па цэнаўтварэнню было праверана больш як 200 прадпрыемстваў гандлю розных формаў уласнасці і ведамаснай падпарадкаванасці. Колькасць парушальнікаў склала 42,5 працэнта. Прычым завышэнне гандлёвых і аптовых надбавак зроблена галоўным чынам на харчовыя і сацыяльна значныя тавары і паслугі. Так, напрыклад, салігорскае дзяржаўнае прадпрыемства «Юбілейны» ўстанавіла нацэнку на масла ў памеры 24 працэнтаў замест 15, на маянэз — 30 замест 25, ёгурт — 20 замест 15 працэнтаў. А на Баранавіцкай фабрыцы індпашыву і рамонту адзення цэны павышаны ў сярэднім на 60 працэнтаў.

Дарэчы, каб у 1998 годзе ўзровень інфляцыі не перавышаў 2 працэнтаў у месяц, урад распрацаваў схему штомесячнага змянення цэн. У адпаведнасці з ёю ў студзені былі павышаны закупачныя цэны на буйную рагатую жывёлу і малако на 10 працэнтаў, рознічныя цэны на шэраг малочных прадуктаў, ялавічыну, свініну, курыныя яйкі — у сярэднім на 5 працэнтаў. Узнікшая сітуацыя ў цэнаўтварэнні, на думку праваўрадавых, выклікана таксама нездавальняючай работай міністэрстваў прамысловасці, сельскай гаспадаркі і харчавання, гандлю, Белбытсаюза, Дзяржкамдруку, а таксама аблвыканкамаў па кантролю за захаваннем прагнознага ўзроўню інфляцыі ў студзені — лютым гэтага года.

Вынікі праверак дадожаны прэм'ер-міністру Сяргею Лінгу. У адпаведнасці з імі міністэрствам і іншым рэспубліканскім органам дзяржаўнага кіравання даручана разгледзець на пасяджэннях калегій пытанне аб цэнаўтварэнні на падведамасных прадпрыемствах і прыняць меры ў адносінах да службовых асоб, якія дапусцілі неабгрунтаванае павышэнне цэн. Акрамя таго, Мінэканомікі даручана ўнесці для разгляду на пасяджэнні Прэзідыума Савета Міністраў і прапановы аб прыцягненні да адказнасці кіраўнікоў міністэрстваў і іншых рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання, на прадпрыемствах якіх выяўлены парушэнні дысцыпліны цэн.

**БЕЛТА.**

*ХАБАРНІЦТВА*

## НАЧАЛЬНІК СПЕЦКАМЕНДАТУРЫ ТРАПІЎ ЗА КРАТЫ

Пракуратурай Віцебскай вобласці арыштаваны начальнік спецкамендатуры Лёзненскага РАУС і оперупаўнаважаны гэтай спецкамендатуры. Яны абвінавачваюцца ў тым, што за спрыяльнае вырашэнне пытання аб датэрміновым вызваленні адбываючага ўспецкамендатуры пакаранне асуджанага, атрымалі ад яго ў выглядзе хабару 500 долараў ЗША. Следства па справе праводзіць пракуратура вобласці.

А вось супрацоўнік Гродзенскай міліцыі не пакваліўся на хабар. Гродзенскай транспартнай пракуратурай арыштаваны грамадзянін Рэспублікі Азербайджан Гусейнаў, які ў службовым кабінеце Гродзенскага АУС спрабаваў даць хабар у суме 1,5 млн. рублёў оперупаўнаважанаму АЭП за тое, каб супрацоўнікі міліцыі не праводзілі праверку незаконнай гандлёвай дзейнасці камерсанта.

**Аляксей ТАРАНАЎ.**

## БЕЛАРУСКАМУ ДЗІЦЯЧАМУ ФОНДУ

Паважаныя сябры!

Сардэчна віншую вас з дзесяцігадовым юбілеем вашай дабрачыннай арганізацыі.

Сёння можна з упэўненасцю сказаць, што стварэнне Беларускага дзіцячага фонду стала з'явай вялікай грамадскай значнасці.

Такія вашы маштабныя справы, як тэлемарафон «Выратуем дзяцей», рэспубліканскі сход «Бацькі і дзеці», Дзіцячы парламент, навагоднія акцыі «Хворым дзецям — нашы сэрцы», сталі добрымі ўрокамі міласэрнасці для ўсіх грамадзян рэспублікі. Вашы праграмы «Чарнобыль і дзеці», «Цёплы дом», «Сіроты ў сем'ях», «Таленавітыя дзеці» — гэта канкрэтны матэрыяльна-маральны водгук на тыя праблемы, з якімі сутыкаецца цяпер наша грамадства.

Нядаўна Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь зацверджана праграма «Дзеці Беларусі». Яна доўгатэрміновая, падмацоўваецца значнымі сродкамі з дзяржаўнай казны і накіравана, перш за ўсё, на захаванне здароўя дзяцей, удзел у лёсе дзяцей-сірот, дзяцей-інвалідаў, на развіццё індустрыі дзіцячага харчавання, умацаванне сям'і. Важна, каб грамадскія арганізацыі, вакол якіх згуртаваны сумленныя, з добрымі сэрцамі людзі, выступілі актыўнымі памочнікамі прэзідэнта і ўрада ў выкананні намечаных праграмай задач.

Перакананы, што ўсе разам мы — дзяржава, грамадскасць і сям'я — пераадолеем часовыя цяжкасці, дапаможам дзецям Беларусі ўвайсці ў самастойнае жыццё паўнацэннымі грамадзянамі.

Жадаю Беларускаму дзіцячаму фонду далейшых поспехаў у высакароднай і гуманнай дзейнасці. Хай вашы сэрцы і надалей аддаюць дабрыню, спагаду, любоў дзецям, якім неабходна падтрымка.

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА.**

*27 лютага 1998 года.*

## У НАШАЙ КРАІНЕ САПРАЎДНЫЯ ПРАЦАЎНІКІ ЗАЎСЁДЫ Ў ПАШАНЕ

**Самай прыемнай падставай для сустрэчы назваў прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ўрачыстую цырымонію, якая адбылася 27 лютага ў рэзідэнцыі кіраўніка дзяржавы. У гэты дзень высокія дзяржаўныя ўзнагароды былі ўручаны вялікай групе працаўнікоў сталіцы і Мінскай вобласці.**

Аляксандр Лукашэнка падзякаваў узнагароджаным за тое, што свае талент і энергію яны аддаюць на карысць нашай краіны. «Дзякуючы вам усё большы ўздым набірае эканоміка нашай дзяржавы, — сказаў прэзідэнт. — Ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі паспяхова пераадольваюцца крызісныя з'явы. Прырост выпуску прамысловай прадукцыі, павелічэнне тавараабароту, пашырэнне экспарту, павышэнне эфектыўнасці вытворчасці — усё гэта дае магчымасць забяспечваць паляпшэнне спраў і ў сацыяльна-культурнай сферы».

Сярод тых, каму ў гэты дзень уручаліся ордэны і медалі, а таксама пасведчанні і нагрудныя знакі да ганаровых званняў, былі прадстаўнікі самых розных сфер: прамысловасці і сельскай гаспадаркі, будаўніцтва і транспарту, медыцыны і бытавога абслугоўвання, адукацыі і культуры, навукі і органаў дзяржаўнага кіравання. Усіх гэтых людзей кіраўнік дзяржавы назваў цветам сталіцы і Мінскай вобласці. Ён пажадаў ім здароўя, шчасця, дабрабыту і выказаў упэўненасць, што гэтыя ўзнагароды будуць у іх не апошнімі.

**Эдуард ПІВАВАР, БЕЛТА.**

## БЕЛАРУСЬ І ЭКВАДОР ГАТОВЫ ДА БОЛЬШ ЦЕСНАГА СУПРАЦОЎНІЦТВА

З пачаткам работы ў Беларусі дыпламатычнай місіі Эквадора развіццё двухбаковых адносінаў атрымае новы імпульс. Прычым не толькі ў галіне эканомікі і палітыкі, але і ў сацыяльнай, культурнай і гуманітарнай сферах. Гэта перакананне выказала Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Эквадора ў нашай краіне (па сумяшчальніцтву) Мірыян Хімена Марцінэс Кале дэ Перэс, уручаючы 27 лютага прэзідэнту Беларусі Аляксандру Лукашэнку даверчыя граматы.

Прыярытэтным у двухбаковых адносінах гандлёва-эканамічнае супрацоўніцтва лічыць кіраўнік нашай дзяржавы Аляксандр Лукашэнка. У прыватнасці, ён паведаміў паслу, што Беларусь гатова купляць у Эквадора тую сельгаспрадукцыю, якая не вырабляецца ў Беларусі.

Аляксандр Лукашэнка таксама адзначыў, што Беларусі важна мець у Лацінскай Амерыцы такога партнера, як Эквадор. Гэта дасць магчымасць больш актыўна развіваць адносіны з іншымі дзяржавамі рэгіёна.

**Аляксандр ЛЮШКЕВІЧ,БЕЛТА.**

## БРАНІСЛАЎ ГЕРЭМЕК ПРЫЯЗДЖАЎ У МІНСК, КАБ АБМЕРКАВАЦЬ УЗАЕМААДНОСІНЫ ПАМІЖ АБСЕ І БЕЛАРУССЮ

Дэлегацыю АБСЕ прыняў прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь Сяргей Лінг. Кіраўнік беларускага ўрада высока ацаніў дзейнасць АБСЕ ў галіне прэвентыўнай дыпламатыі і міратворчасці, а таксама ў правядзенні палітычных і эканамічных пераўтварэнняў у краінах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. «Мы імкнёмся пабудаваць максімальна адкрытую эканоміку і таму зацікаўлены ў зацвярджэнні атмасферы бяспекі і добрасуседства ў Еўропе. Ніхто не можа папракнуць Беларусь у тым, што ад нас зыходзяць якія-небудзь агрэсіўныя ініцыятывы», — заявіў Сяргей Лінг.

**Вадзім МІЛІЦЫН, БЕЛТА.**

*З НАГОДЫ*

## СУСТРЭЧЫ ДЭПУТАТАЎ БЕЗ ГАЛЬШТУКАЎ

***Учора ў Мінск пачалі прыбываць першыя каманды парламентарыяў з краін СНД, якія з 1 па 2 сакавіка правядуць у легкаатлетычным спорткомплексе ва Уруччы турнір па міні-футболу.***

З гэтай нагоды мы задалі некалькі пытанняў начальніку Упраўлення інфармацыі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі Міхаілу БАБРОЎКУ.

**— Міхаіл Сямёнавіч, колькі каманд будзе ўдзельнічаць у гэтым турніры?**

— Шэсць каманд. Зборныя дэпутатаў Кыргызстана, Расіі, Украіны, Малдовы, Казахстана і, вядома, Беларусі. Турнір пройдзе 1 і 2 сакавіка, і ў апошні дзень адбудуцца фінальныя гульні.

**— Хто арганізоўвае спаборніцтвы?**

— Парламентарыямі Нацыянальнага сходу Беларусі, пад эгідай Міжпарламенцкай асамблеі СНД.

**— У некаторых напрошваецца пытанне: ці варта выкідваць такія грошы (а трэба думаць, што сума будзе немалая), на правядзенне такіх мерапрыемстваў? Ці не будзе гэта пераборам?**

— Я не думаю. Па-першае, здараецца, што менавіта на такіх неафіцыйных сустрэчах хутчэй знаходзіцца ўзаемаразуменне паміж палітыкамі. Па-другое, такія турніры — ужо традыцыя. Прымалі каманду беларускіх парламентарыяў украінскія дэпутаты ў Кіеве, расійскія — у Маскве, Сочы, Валгаградзе, малдаўскія — у Кішыневе. Прыязджалі да беларусаў у госці аўстрыйскія дэпутаты, і зараз чакаюць да сябе з візітам у адказ. На футбольных палях таксама вырашаецца палітыка.

**— За каго самі будзеце балець?**

— Вядома, за сваіх. Хоць, як мне падаецца, галоўнае тут — не перамога.

**Алесь СІВЫ.**

*РЭХА СЕНСАЦЫІ*

# ЗАБЛУДЗІЛІ Ў ТРОХ «ЯДЗЕРНЫХ СОСНАХ»

***Кропка над «і»: усё ж такі ці мае Беларусь плутоній для атамнай зброі? Ці існуюць у нас нейкія «падыходы» да яе стварэння?***

**Адным з нямногіх, хто пагадзіўся прама і шчыра адказаць на ўзнятыя пытанні, аказаўся член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук, дырэктар Беларускага інстытута радыяцыйнай бяспекі, доктар тэхнічных навук прафесар Васіль НЕСЦЯРЭНКА. Ён, дарэчы, дванаццаць гадоў працаваў намеснікам дырэктара, а потым яшчэ дзесяць — дырэктарам былога НДІ ядзернай энергетыкі АН БССР у Соснах пад Мінскам.**

— У Беларусі застаўся толькі уран (падкрэслю — ніякі не зброевы плутоній!), які ў часы СССР прывозілі ў рэспубліку для навуковых мэтаў. Плутонію ж для навуковых распрацовак у Беларусь ніколі не завозілі ні грама. Няма яго і цяпер.

Таму я і вяду размову толькі пра ядзерны матэрыял, які прыцягваўся для навуковых мэтаў, — тыя самыя дзве тоны урану (менавіта урана!), вакол якіх накруцілі столькі лухты. Гавару гэта яшчэ і таму, што, акрамя дырэктарства ў НДІ ядзернай энергетыкі, у мяне ў 1971—1987 гадах былі дадатковыя пасады — навуковага кіраўніка праекта і генеральнага канструктара перасовачнай атамнай электрастанцыі. Абавязаны дадаць, што папярэднікам у гэтай рабоце (1971—1977 гг.) у мяне быў вядомы вучоны (цяпер ужо нябожчык) акадэмік Андрэй Капітонавіч Красін.

**— Усё, што вы, Васіль Барысавіч, расказваеце, гэта не дзяржаўная тайна? «Не прыцягнуць» нас з вамі?**

— Няма за што. Усё гэта даўно рассакрэчана, што шырокай аўдыторыі проста яшчэ невядома. Гэтая ўстаноўка АЭС была выраблена ў двух экземплярах, адзін з якіх праходзіў выпрабаванні. У 1987 годзе яны былі спынены.

Як жа стваралася ў Беларусі ядзернае паліва для гэтай устаноўкі? У нашым НДІ была спецыяльнай лабараторыя, дзе ўсе тры камплекты ядзернага паліва для перасовачнай АЭС прайшлі фізічную адпрацоўку і выпрабаванні — іх мы, зразумела, атрымлівалі з Расіі.

Гэта быў уран 45-працэнтнага абагачэння, а ніякі не плутоній, і такі ядзерны матэрыял ніяк не падыходзіў для баявых бомбаў, а толькі як паліва для рэактара, для навуковых мэтаў. А вось калі дабіцца абагачэння урану на ўзроўні 90 працэнтаў і вышэй, то тады, зразумела, ужо можна гаварыць і пра прымяненне яго ў якасці начынкі для атамнай бомбы.

І вось цяпер вакол гэтых пытанняў з'явілася шмат некампетэнтных разважанняў, публікацыі ў газеце «Народная воля», некаторых іншых. Асноўным аўтарам тут, заўважу, выступае Васіль Ермашкевіч.

**— Прабачце, але ён, здаецца, таксама працаваў у тым жа НДІ ядзернай энергетыкі ў Соснах. Мусіць, нешта ведае...**

— Сапраўды, у тыя часы ён працаваў у інстытуце маім намеснікам, быў спецыялістам па гідрадынаміцы помпаў, аднак ядзерныя праблемы, прама скажам, былі ад яго далекаватыя. Аўтарытэтным вучоным тут ён не быў. Праўда, цяпер «аўтарытэтамі» ў гэтай галіне сталі, як ні смешна, нават агляндальнікі з тэлебачання.

Сёння Васіль Мікітавіч, на жаль, бярэцца за пытанні даўно ўжо «закрытай» АЭС «Памір». На жаль таму, што аб ёй В. Ермашкевіч мала ведае, пытаннямі паліва для гэтай устаноўкай не займаўся. Як можна сцвярджаць, што уран з 45-працэнтным узроўнем абагачэння магчыма выкарыстоўваць для стварэння ядзернай зброі? Усё гэта бязглуздзіца. Як, дарэчы, і ўвогуле прыцягванне станцыі «Памір» да тэмы магчымага стварэння атамнай бомбы. Аднак, як мы бачым, падобныя «глыбакадумныя» разважанні робяць сваю справу — раздуваюць ажыятаж...

**— Хто ж са спецылістаў, на вашу думку, кампетэнтны ў гэтай праблеме?**

— У інстытутах, на якія цяпер падзяліўся былі НДІ ядзернай энергетыкі ў Соснах, яны ёсць. Напрыклад, загадчык лабараторыі крытычных рэактараў прафесар Алег Ярашэвіч, некаторыя іншыя вучоныя. Яны, праўда, не выступаюць у адкрытым друку, і зразумела чаму. А ўсё ж такі шкада, бо пальму першынства пакуль трымаюць калясспецыялісты.

Напомню яшчэ, што ў тыя гады ў інстытуце вялася і распрацоўка рэактара на хуткіх нейтронах. Пад яго мы вывучалі канкрэтную «фізіку» і таксама заказвалі ядзернае паліва. Там выкарыстоўваліся уранавыя стрыжні — і той уран быў ужо абагачаным на ўзроўні каля 90 працэнтаў. Яго ў нас было каля 40 кілаграмаў.

Калі яшчэ раз прааналізаваць тую «тэлевізійную заяву», то сапраўды Беларусь мае прыблізна дзве тоны урану, але, паўтаруся, ніяк не зброевага плутонію. Прычым нямала гэтага урану і даволі нізкай ступені абагачэння. З усёй колькасці толькі і маецца, што тыя самыя 40 кілаграмаў высокаабагачанага урану, пра які можна гаварыць — між іншым, толькі тэарэтычна! — што ён у нейкай ступені прыгодны (менавіта прыгодны, і не больш) для выкарыстання пры стварэнні атамнай бомбы. Так што мы чуем несур'ёзныя размовы, але з сур'ёзным падтэкстам.

Дадам, што не з'яўляюцца сакрэтам наступныя падлікі: калі атамная бомба робіцца з плутонію, то яго трэба каля 5 кілаграмаў. Калі ж з урану 90-працэнтнага абагачэння — то 20 кілаграмаў. Так што мяркуйце самі, якія тут «магчымамасці».

Тым больш, што ствараць ядзерную бомбу — гэта зусім асобая задача. У тыя часы перад НДІ ў Соснах ніхто яе і не думаў ставіць.

**— А калі камусьці і прыйшла б у галаву такая дрымучая «ідэя»... Гэта ж каласальныя затраты! Якая эканоміка гэта можа пацягнуць?**

— Выкажуся адназначна: наша эканоміка — ні ў якім разе. У такім выпадку неабходна ствараць адпаведную тэхналогію і спадарожныя вытворчыя структуры, будаваць дарагія заводы і г. д. — гэта ж затраты ў дзесяткі мільярдаў долараў. А трэба яшчэ ўлічыць і бяз'ядзерны статус нашай дзяржавы, нашу палітыку ў гэтым напрамку. Так што Беларусі займацца падобнымі рэчамі зусім няма патрэбы.

Каб закончыць тэму, скажам так, «псеўдаядзерных прыгатаванняў», дам і такую даведку: увесь уран быў атрыманы НДІ ў Соснах тады, калі я быў там дырэктарам. Пасля ж ніводнага кілаграма ядзернага паліва там ужо не атрымлівалі.

**— Цікава, Васіль Барысавіч, і іншае: як гэта той жа міжнародны кантроль даў бы нам магчымасць займацца «бомбавымі» распрацоўкамі?**

— Некалькі гадоў таму ЗША і Японія ў рамках дзейнасці МАГАТЭ выдзелілі Беларусь грошы на так званую фізічную абарону нашага ядзернага паліва. Гэтай праграмай прадугледжаны асобыя ўмовы яго захоўвання, назірання за ім і г. д. Як толькі хтосьці захацеў бы перамясціць «касеты» з уранавымі стрыжнямі з рэактара, прызначанага для навуковай работы, у нейкае іншае месца і зрабіў бы гэта, то адпаведная інфармацыя ў момант з'явілася б у штаб-кватэры МАГАТЭ ў Вене. Інспектары адтуль, заўважу, прыязджаюць у Беларусь па пытаннях, скажам так, прафілактыкі кожны месяц. Так што захоўванне і выкарыстанне беларускіх ядзерных матэрыялаў знаходзіцца пад жорсткім і надзейным кантролем пры гарантыях МАГАТЭ.

**— Пры ўсім тым гэтыя 40 кілаграмаў амаль «чыстага» урану вельмі «падазроныя». Чаго тут чакаць? Бо пры жаданні (абапіраюся на вашы ж даныя) хтосьці можна захацець займець дзве ядзерныя бомбы.**

— Дык я заспакою і вас, і ўсіх астатніх. Гэтыя «кілаграмы», зноў падкрэсліваю, ніяк не прыдатныя для ваеннага выкарыстання, гэта ядзернае паліва толькі для навуковых даследаванняў.

Успомнім, калі былы СССР (а гэта — не малая Беларусь) ствараў атамныя бомбы, то ледзь ці не ўсё насельніцтва хадзіла, вобразна кажучы, у куфайках, людзі жылі ў падвалах. Праўда, тады ішла «халодная вайна», мела месца атамна-ракетнае процістаянне, можа, такія каласальныя затраты і былі неабходныя. Сёння ж на нас нападаць ніхто не збіраецца, і дазвольце спытаць: хто будзе затрачваць гэтыя мільярды, калі ў нас няма сродкаў нават на лячэнне хворых ад Чарнобыля дзяцей?! Гэта, зразумела, эканоміка, пра маральнасць я ўжо і не кажу.

Так што я асабіста лічу: тое, што і ранейшыя палітыкі, і наш цяперашні прэзідэнт адмовіліся ад ядзернай зброі на тэрыторыі краіны, абсалютна правільна. І няхай Беларусь заўсёды застаецца бяз'ядзернай — гэта ж адзін з асноўных пастулатаў нашай дзяржаўнай палітыкі. І наогул бразганне зброяй — вельмі неразумная штука, гэта трэба было б зразумець усім.

**Вучонага распытваў Валерый ЧАРНЯЎСКІ.**

## ГРУПА АБСЕ: ТРАЯНСКІ КОНЬ АПАЗІЦЫІ ЦІ ІНСТРУМЕНТ ПРЫМІРЭННЯ З ЗАХАДАМ?

**Учора ў Мінску быў адкрыты офіс кансультатыўна-назіральнай групы ў Беларусі (КНГ) Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе (АБСЕ). У афіцыйнай цырымоніі ўдзельнічалі дзеючы старшыня АБСЕ, міністр замежных спраў Польшчы Браніслаў Герэмек, яго беларускі калега міністр Іван Антановіч, генеральны сакратар АБСЕ Жанкарла Арагон.**

Адкрыццё прайшло, як і належыць мерапрыемству падобнага ўзроўню, на мажорнай ноце. Прыўзняты мажорны настрой панаваў у Міжнародным адукацыйным цэнтры. Урачыстыя прамовы абодвух міністраў, (дарэчы, яшчэ і прафесараў з вялікім вопытам публічных выступленняў) адпавядалі духу падзеі і былі прасякнуты зразумелым пафасам і шчырымі (са свайго пункту гледжання) спадзяваннямі на плённую працу групы ў Беларусі.

З асаблівай цікавасцю слухалі польскага міністра прадстаўнікі апазіцыі. У яе ёсць, відаць, падставы лічыць пана Герэмека сваім прыхільнікам. У кулуарах недарэмна ходзіць версія, што пані Эва Спыхальска нядаўна развіталася з пасольскай пасадай у Мінску часткова дзякуючы і намаганням беларускай апазіцыі, якая выказала Варшаве сваю моцную нездаволенасць індэферэнтнасцю польскага пасольства да патрэб барацьбы з існуючым рэжымам.

У свой час апазіцыя даволі вынікова папрацавала над стварэннем адмоўнага іміджа прэзідэнцкай Беларусі ў асноўных еўрапейскіх арганізацыях, у тым ліку ў АБСЕ. Там ёй удалося найбольш шырока распаўсюдзіць свае меркаванні аб сітуацыі ў краіне атрымаць спачуванне да сябе і істотную маральную падтрымку.

Гэта матэрыялізавалася ў намеры АБСЕ накіраваць у Беларусь місію сваёй арганізацыі. Але сама назва «місія» выклікала моцную алергію ў афіцыйнага Мінска, бо місіі АБСЕ звычайна накіроўваюцца ў рэгіёны масавых парушэнняў правоў чалавека, а з падобным падыходам беларускія ўлады не маглі пагадзіцца. У выніку складаных і шматразовых перагавораў прыйшлі да кампрамісу — гэта будзе не місія, а кансультатыўна-назіральная група.

Калі апазіцыя разлічвае з адкрыццём офіса набраць ачкоў і ўзмацніць свой уплыў, то ўлады, якія неаднаразова заяўлялі, што не ўсё у нас так дрэнна з правамі чалавека і парушэннямі дэмакратыі, аб чым моцна шуміць за мяжой апазіцыя, будуць імкнуцца выкарыстаць прысутнасць офіса групы для нармалізацыі адносінаў з Заходняй Еўропай увогуле і з АБСЕ — у прыватнасці.

Членам гэтай арганізацыі Беларусь стала шэсць гадоў таму назад. У Вене, дзе размешчана штаб-кватэра АБСЕ пастаянна знаходзіцца беларуская дэлегацыя.

Беларусь выступае за ўмацаванне ролі АБСЕ на кантыненце як цэнтральнай еўрапейскай арганізацыі ў галіне бяспекі і супрацоўніцтва ў процівагу ў першую чаргу НАТО. Афіцыйны погляд беларускіх уладаў наступны: кожная дзяржава мае права свабодна выбіраць спосабы забеспячэння сваёй бяспекі, уключаючы розныя пагадненні і саюзы. Разам з тым падкрэсліваецца асаблівае значэнне захавання бяспекі краін, якія ўваходзяць у новыя саюзы.

Такім чынам, з'яўленне групы АБСЕ ў Мінску нарадзіла дыяметральна процілеглыя чаканні ў палітычных колах краіны. І ўлады, і апазіцыя пастараюцца праз КНГ данесці да Еўропы менавіта сваю праўду аб становішчы ў Беларусі. У гэтым сэнсе кіраўніку групы, паслу доктару Хану Георгу Віку можна толькі паспачуваць — яго чакае наперадзе цяжкая напружаная праца па аддзяленню «зерен от плевел».

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

## У В'ЕТНАМЕ ЗАБАРАНІЛІ ЕСЦІ КОШАК

Папулярная страва в'етнамскай кухні «маленькі тыгр» у хуткім часе зусім знікне з меню рэстаранаў. Прэм'ер-міністр В'етнама Фан Ван Кхай загадаў зачыніць усе рэстараны, якія маюць мяса кошак у меню. Папулярнасць страў з гэтых свойскіх жывёлін прывяла да таго, што яны пачалі знікаць з вуліц. Іх сталі выкрадаць з дамоў з мэтай продажу.

У выніку павялічылася колькасць пацукоў у такіх памерах, што гэта стала пагражаць будучаму ўраджаю. В'етнамская газета «Тан Ніен» паведамляе, што народныя камітэты па ўсёй краіне атрымалі загад неадкладна забраць ліцэнзію ва ўсіх рэстаранаў, якія маюць у меню «маленькага тыгра».

**Інэса МОІН, БЕЛТА.**

## СЯМЕЙНАЕ ШЧАСЦЕ ІНШАЗЕМЦЫ ШУКАЮЦЬ У БЕЛАРУСІ

Летась у Мінску былі зарэгістраваны 263 шлюбы з грамадзянамі з краін далёкага замежжа (у 1996 г. -- 251).

Як паведамілі ў сталічным Палацы шлюбаў, іншаземцы па-ранейшаму аддаюць перавагу беларускім жанчынам: 99,9 працэнта ўсіх беларуска-замежных шлюбаў рэгіструюцца менавіта з нашымі дзяўчатамі. А вось беларускія мужчыны, здаецца, не вельмі цікавяць эмансіпіраваных замежных дам, ці, можа, наадварот, нашы хлопцы іх усур'ёз не ўспрымаюць. Ва ўсякім разе, з іншаземкамі бяруць шлюб штогод усяго 1-2 мінчаніны з амаль двухмільённай сталіцы!

Трэба заўважыць, што кола прэтэндэнтаў, жадаючых узяць у спадарожніцы жыцця беларусак, вельмі шырокае: так, летась Мінск «парадніўся» з 41 краінай свету. Сярод гэтага спіса можна сустрэць і арабскія краіны, і афрыканскія, і краіны Азіі. Аднак лідэрамі па імпарту беларускіх нявест ужо некалькі гадоў запар з'яўляюцца Германія, Злучаныя Штаты Амерыкі і Ізраіль.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

**Аб'явіўшы «прамую лінію» з міністрам культуры Беларусі А. Сасноўскім, калі шчыра, мы троху хваляваліся. Час цяпер цяжкі — людзей найперш турбуюць пытанні элементарнага фізічнага выжывання: як пракарміць дзяцей, куды пайсці працаваць, як зарабіць грошы... Ці могуць людзі ў такіх складаных умовах думаць яшчэ і пра культуру, духоўнасць, мастацтва?**

**Але ў рэдакцыю пісалі, тэлефанавалі загадзя з самых розных куткоў Беларусі, нават суайчыннікі з суседніх краін з просьбай абавязкова перадаць іх пытанні міністру. У гэтых лістах, званках чуліся трывога і клопат аб будучыні, людзі гаварылі пра набалелае, пра кнігі, якіх стала менш у іх жыцці, пра сваю любоў да народнай песні і роднага слова. Пытанні, зададзеныя міністру культуры, сведчылі аб тым, што праблемы развіцця нацыі — гэта сёння ў многім праблемы сучаснай культуры.**

# Культура — рухавік развіцця нацыі

«Прамая лінія»: з вамі гутарыць міністр культуры Беларусі Аляксандр САСНОЎСКІ

**— На беларускай зямлі няма ніводнай беларускамоўнай ВНУ! Прапаную паважанаму Аляксандру Сасноўскаму і яго калегам гэтыя абставіны лічыць мэтавызначальнымі, першаснымі ў сваёй дзейнасці.**

**А. ЮНЧАНКАЎ, г. Мінск.**

— У сістэме Міністэрства культуры працуюць тры ВНУ: Беларускі універсітэт культуры, Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі і Беларуская акадэмія мастацтваў. Выкладчыкі гэтых устаноў маюць магчымасць і здольнасці выкладаць прадметы спецыяльнага і агульнаадукацыйнага цыкла разам з рускай мовай і па-беларуску, што засведчана праведзенай у апошнія гады атэстацыяй выкладчыцкага персаналу. У адпаведнасці з пажаданнямі студэнтаў вучэбна-выхаваўчы працэс у іх сёння больш чым напалову вядзецца па-беларуску. Справаводства пераведзена на беларускую мову амаль поўнасцю. У ліку выкладчыкаў — лепшыя прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі, актыўныя дзеячы нацыянальнай культуры.

Пытанні выхавання асобы ў нацыянальным і патрыятычным накірунках знаходзяцца пастаянна ў полі зроку Міністэрства культуры і яго калегіі.

**— У мінулым годзе Вы неаднойчы гаварылі аб тым, што наспела патрэба ўносіць змены ў Закон аб ахове культурнай спадчыны. Якая ў тым неабходнасць?**

**Сям'я ВАСЮКОЎ з Мінска, археолагі.**

— Асноўная прычына, якая выклікала неабходнасць унясення змен у Закон «Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны», — жаданне актывізаваць прыцягненне пазабюджэтных сродкаў да справы аховы, рэстаўрацыі і належнага ўтрымання гісторыка-культурных каштоўнасцяў, а таксама патрэба больш рацыянальнага выкарыстання сродкаў, што выдзяляюцца на гэтыя мэты з дзяржаўнага бюджэту. Шэраг абмежаванняў па перадачы правоў уласнасці на каштоўнасці, што былі прадугледжаны законам, далёка не спрыялі гэтым мэтам.

Мы вельмі зацікаўленыя таксама ў тым, каб прыпыніць або хаця б зменшыць на тэрыторыі Беларусі дзейнасць «чорнага рынку» гісторыка-культурных каштоўнасцяў. Наступствы дзейнасці такога рынку для нас — гэта вываз каштоўнасцяў за межы Беларусі. Процістаяць «чорнаму рынку каштоўнасцяў» можна толькі праз абарону правоў калекцыянераў, добрасумленных пакупнікоў і прадаўцоў каштоўнасцяў. Гэта таксама ўлічана пры распрацоўцы прапаноў аб унясенні змен у закон.

**— Раней існавала сістэма ўзаемаадносінаў дзяржавы з творчай інтэлігенцыяй, мастакамі, пісьменнікамі, кампазітарамі. Як рэгулююцца гэтыя ўзаемаадносіны зараз?**

**КУЗЬМЕНКА, мастак, Гродна.**

— Сістэма адносінаў з творчай інтэлігенцыяй, мастакамі, пісьменнікамі і кампазітарамі не парушалася. Як і раней, захоўваецца дзяржаўны заказ на стварэнне буйных сачыненняў — оперы, балета, кінафільма... Акрамя таго, міністэрства за кошт цэнтралізаваных сродкаў фарміруе рэпертуар мастацкіх калектываў, набываючы творы беларускіх кампазітараў, драматургаў, паэтаў. Сістэма ўзаемадзеяння дзяржавы і творчай інтэлігенцыі ўдасканальваецца і ўзбагачаецца. Створаны спецыяльны Фонд прэзідэнта па падтрымцы таленавітай моладзі, прызначаюцца стыпендыі пад выкананне пэўных творчых праектаў. Пры Міністэрстве культуры створаны савет, у які ўваходзяць прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі, яны прымаюць удзел у размеркаванні дзяржаўных бюджэтных сродкаў.

**— Па якой прычыне работнікам Смаргонскай музычнай школы не выплацілі ў канцы мінулага года 50 працэнтаў акладу?**

— Матэрыяльная дапамога ў адпаведнасці з распараджэннем Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 30.12.1997 № 399 рп не выплачана работнікам школы ў сувязі з тым, што сродкі, якія былі прадугледжаны школе на аплату працы, па выніках мінулага года выкарыстаны поўнасцю, а дапамога выплачвалася толькі за кошт эканоміі сродкаў па фонду аплаты працы.

**— Сфера культуры перажывае цяжкі пераломны перыяд адаптацыі да новых эканамічных умоў. Ці існуе ў Беларусі стратэгія развіцця нацыянальнай культуры?**

**Усевалад ПАРАХНЕВІЧ, Нацыянальная акадэмія навук. Мінск.**



— Развіццё беларускай, як і любой іншай нацыянальнай культуры мае сваю ўнутраную логіку. Але разам з тым дзяржаўная стратэгія можа садзейнічаць гэтаму развіццю і абапірацца на яго. Таму вельмі важна вызначыць прыярытэты і прынцыпы ў акрэсленні доўгатэрміновых мэтаў і задач культурнай палітыкі. Да іх ліку мы адносім: фарміраванне сродкамі культуры інтэлектуальных і маральных падстаў стварэння дэмакратычнай прававой дзяржавы; захаванне нацыянальна-культурнай аўтаноміі беларускага народа пры поўным адмаўленні ад тэндэнцыі да культурнай аўтаркіі, духоўнай самаізаляцыі; зберажэнне гісторыка-культурнай спадчыны і развіццё нацыянальных культурных традыцый, што забяспечваюць фарміраванне нескажонай гістарычнай самасвядомасці народа; кансалідацыя дзеячаў нацыянальнай культуры на аснове арганічнага спалучэння гуманістычных традыцый народнай культуры беларусаў, іншых культур, сусветнай культурнай спадчыны.

Абапіраючыся на гэтыя прыярытэты і прынцыпы, Міністэрства культуры вядзе вялікую работу па распрацоўцы Дзяржаўнай навукова-тэхнічнай праграмы «Культура», якая павінна быць завершана да канца 1998 года.

**— Чаму Мінкультуры не выкарыстоўвае сродкі культуры і мастацтва для барацьбы са злачыннасцю?**

**Алег ЛУГАЎЦОЎ, г. Барысаў.**

— Уся дзейнасць устаноў, арганізацый і асобных творцаў, якія працуюць у сістэме Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, звязана з арганізацыяй духоўнага свету асобы, выхавання маральнасці чалавека. Тэатральна-відовішчныя ўстановы, развітая сетка аматарскіх гурткоў, калектываў народнай творчасці, клубаў, музеяў, больш за пяцьсот дзіцячых школы мастацтваў, сярэднія спецыяльныя і вышэйшыя навучальныя ўстановы культуры ажыццяўляюць выхаваўчую работу практычна з усімі ўзроставымі групамі ўласцівымі культуры формамі — спектаклямі, канцэртамі, творчымі вечарамі, віктарынамі, фестывалямі...

Што датычыцца прамой барацьбы з правапарушэннямі, то яна ўскладзена на органы пракуратуры і ўнутраных спраў. Разам з тым у клубных, тэатральных і іншых установах практыкуюцца і спецыяльныя мерапрыемствы, мэта якіх — барацьба з п'янствам, крадзяжамі прыватнай і дзяржаўнай маёмасці, хуліганствам...

**— Чаму тэатр сатыры і гумару «Хрыстафор», маладзёжны тэатр эстрады працуюць на рускай мове?**

**Лілія САДОЎСКАЯ, хатняя гаспадыня з Мінска.**

— Тэатр сатыры і гумару «Хрыстафор» не з'яўляецца тэатральна-відовішчным прадпрыемствам, падведамным Міністэрству культуры альбо іншым дзяржаўным установам. Таму тэатр не мае дзяржаўнага заказу на пастаноўку спектакляў. Рэпертуар фарміруе сам калектыў, зыходзячы, як яму здаецца, з запатрабаванняў гледача.

Але разам з тым артысты тэатра не цураюцца беларускай мовы. Так, у спектаклі «Кто кого?» ёсць нумар «Вяселле», у спектаклі «От Чижовки до Комаровки» два беларускамоўныя нумары — «Вакзал» і «АВІД», у спектаклі «Кавалеры приглашают дамов» выконваецца сцэнка «Ой, дбайце, дбайце».

Па словах галоўнага рэжысёра тэатра Яўгена Крыжаноўскага, артысты з вялікім задавальненнем ігралі б на беларускай мове, але, на жаль, сёння ў Беларусі амаль не існуе аўтараў, здольных пісаць гумарыстычныя і сатырычныя беларускамоўныя творы накшталт такіх рускамоўных аўтараў, як С. Альтаў, М. Жванецкі, М. Задорнаў і інш.

Дзяржаўны маладзёжны тэатр эстрады пачаў сваю творчую дзейнасць з лістапада мінулага года. За гэты час ужо створаны дзве пастаноўкі — «Унесенные смехом» і «Бродвей на Московской».

На сённяшні дзень артысты, якія на аснове конкурсу былі адабраны для далейшай работы ў тэатры, выконваюць песні: «Апошняе каханне» (А. Цівуноў, А. Лягчылаў) — Вольга Вронская; «Белае віно» (В. Раінчык, У. Някляеў) — Анатоль Олех і заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Алег Цівуноў. Беларускамоўныя песні ўжо на гэты час маюцца ў рэпертуары Валерыя Кухарскага і іншых артыстаў тэатра.

Зараз рыхтуецца новая вызяная праграма тэатра «Новыя імёны — новая музыка», дзе беларуска- і рускамоўныя песні плануецца прадставіць у суадносінах «пяцьдзесяць на пяцьдзесят».

Акрамя таго ў рэпертуар тэатра ўвайшоў цалкам беларускамоўны спектакль студэнтаў кафедры эстраднага мастацтва Беларускага універсітэта культуры (мастацкі кіраўнік курса — Вячаслаў Панін) «Заклятыя скарбы» (паводле беларускіх казак, паданняў, замоў), а таксама п'еса М. Чарота «Мікітаў лапаць».

**— Як трапіць на спектаклі беларускага балета? Гэта амаль немагчыма для сталічнага гледача, і ўжо тым больш — для правінцыялаў. А я жыву ў Беластоку, прыязджаю часта да сваякоў, але ніколі не магу пабываць на спектаклях праслаўленага беларускага балета.**

**ХЛЕБНІКАВА, Мінск—Беласток.**

Білеты на спектаклі ў Нацыянальны акадэмічны тэатр балета Рэспублікі Беларусь паступаюць у продаж за месяц да аб'яўленай даты спектакля. Іх можна набыць у касе тэатра балета або ва ўпаўнаважаных па распаўсюджванню білетаў на станцыях метро «Кастрычніцкая» і «Пушкінская». Што датычыцца Вас, пані Хлебнікава, то ёсць дамоўленасць з намеснікам дырэктара па гледачу тэатра Зояй Іванаўнай Юрчанка (тэл. 234-11-42) аб садзейнічанні ў набыцці білета на спектакль у час Вашага чарговага прыезду ў г. Мінск.

**— Што здарылася з кінастудыяй «Беларусьфільм»? Чаму не бачым беларускага кіно?**

**Сям'я КОЖУХАЎ з Вілейкі.**

— Згодна з тэматычным планам вытворчасці фільмаў у 1998 г., на Нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм» будзе выпушчана 4 мастацкіх, 23 дакументальных і 4 мультыплікацыйных стужкі, а таксама 12 нумароў кіначасопіса. Цяпер заканчваецца вытворчасць поўнаметражных мастацкіх фільмаў для дзяцей і юнацтва «Маленькі баец» (рэж. М. Касымава) і «Заклікальны вецер» (рэж. А. Трафіменка). Ажыццяўляюцца сумесныя беларуска-расійскія праекты — фільмы «Права на жыццё», «Вечнае свята» і «Кахаць па-руску-3», рыхтуецца да запуску кінакарціна «У жніўні 44-га» па аднайменнаму раману У. Багамолава.

У лютым на кінастудыі «Беларусьфільм» адбылася рабочая сустрэча кінавытворцаў з прадстаўнікамі кінапракатных прадпрыемстваў рэспублікі, дзе было абмеркавана пытанне аб найбольш эфектыўнай рэалізацыі беларускіх фільмаў на тэрыторыі краіны і па-за яе межамі. У цэлым жа патрэба рэспублікі ў кінапрадукцыі складае каля 300 назваў фільмаў у год.

Першая кінапрэм'ера ў гэтым годзе запланавана на 19 сакавіка ў сталічным кінатэатры «Кастрычнік». «Беларусьфільм» прадставіць аматарам кіно вострасюжэтны фільм «Забіць прытворшчыка» (рэж. В. Марчанкова).

**— Як разумець тое, што пры закрыцці «Славянскага базару-97» не было выканана ніводнай песні на беларускай мове! І ўвогуле ці этычна ў дачыненні да песеннага фестывалю ўжываць слова «базар»?**

**Што канкрэтна робіць міністэрства, каб беларускае слова трывала ўвайшло ў рэпертуары мастацкіх калектываў, у штодзённую дзейнасць устаноў культуры і кіно?**

**Уладзімір ГОРСКІ, Янка ТЫШКА, Віцебск.**

— Канцэпцыя міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар» у г. Віцебску сёлета прадугледжвае больш шырокае ўжыванне беларускай мовы ў выступленнях калектываў і салістаў.

Ажыццяўляючы сацыяльна-творчы заказ Міністэрства культуры, Дзяржаўны аркестр сімфанічнай і эстраднай музыкі толькі ў апошні год падрыхтаваў аўтарскія праграмы беларускіх паэтаў Г. Бураўкіна, Р. Барадуліна, Л. Дранько-Майсюка. Дзяржаўны акадэмічны народны хор імя Г. Цітовіча падрыхтаваў каля дваццаці новых беларускіх музычных нумароў.

Акрамя таго, у г. Маладзечна традыцыйна праходзіць Рэспубліканскі фестываль беларускай песні і паэзіі.

Нацыянальная кінастудыя «Беларусьфільм» і Рэспубліканскае вытворча-творчае прадпрыемства «Беларускі відэацэнтр» пры стварэнні кіна- і відэапрадукцыі па заказу Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь заўсёды выпрабляюць некалькі копій фільмаў на беларускай мове. Значная частка дакументальных стужак ствараецца толькі на беларускай мове.

Па распараджэнню Мінгарвыканкама і аблвыканкамаў кінарэклама на фасадах кінатэатраў павінна быць на беларускай і рускай мовах.

**— Чаму так марудна вырашаецца пытанне аб размяшчэнні гарадскога Дома культуры ў амаль пустуючым кінатэатры «Перамога»? Аршанцы пісалі аб гэтым у «Звяздзе» № 244 ад 24.12.1997. Чакаем дапамогі!**

**Р. МЯЖЭВІЧ, пенсіянерка.**

— Як паведамілі нам ва ўпраўленні культуры Віцебскага аблвыканкама і ў Аршанскім гарвыканкаме, пытанне перадачы аршанскага кінатэатра «Перамога» аддзелу культуры гарвыканкама было актуальным да 1997 г. У мінулым годзе ў г. Оршы вытворчае аб'яднанне «Лёс» передало на баланс гарадскога аддзела культуры будынак Палаца культуры на 500 месцаў, да таго ж у горадзе з насельніцтвам 135 тыс. чалавек функцыянуюць: Палац культуры чыгуначнікаў на 800 месцаў, Палац культуры льнокамбіната (550 месцаў), гарадскі Дом культуры (300 месцаў). Для стварэння яшчэ аднаго Дома культуры на базе кінатэатра «Перамога» ў гарвыканкама няма сродкаў. У вытворчым аб'яднанні «Кінавідэапракат» Віцебскага аблвыканкама падкрэслілі, што «Перамога» — адзіны працуючы ў г. Оршы кінатэатр і рабіць з яго Дом культуры немэтазгодна.

Узнятае пытанне неаднаразова абмяркоўвалася ў Аршанскім гарвыканкаме і Віцебскім аблвыканкаме.

**— Чаму Міністэрства культуры не перадае кінаўстаноўкі непасрэдна аддзелу культуры райвыканкама? Напрыклад, у віцебскім прыгарадным раёне няма ніводнага кінатэатра. Ды і ў самім Віцебску прададзена палова кінатэатраў. Можа гэта таму, што ў нас на ўсіх узроўнях кінафікацыю ўзначальваюць даволі старыя кіраўнікі (за 70 гадоў), якія проста не могуць зразумець патрэб моладзі.**

**Г. ГАЛЫЖЭНКАЎ, Віцебск, Білева.**

— У адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб мясцовым самакіраванні» кінаўстаноўкі і кінатэатры знаходзяцца ў камунальнай уласнасці і на балансе мясцовых органаў дзяржаўнага кіравання (у дадзеным выпадку — Віцебскага аблвыканкама).

У якасці эксперыменту і з улікам мясцовых умоў у асобных раёнах Гомельскай і Магілёўскай абласцей кінаўстаноўкі былі перададзены органам культуры, аднак гэты крок не быў цалкам удалым і патрабуе дакладных разлікаў і глыбокай прапрацоўкі ў кожным канкрэтным выпадку. Як лічыць кіраўніцтва вытворчага аб'яднання «Кінавідэапракат» Віцебскага аблвыканкама, кінатэатры ў віцебскім прыгарадным раёне непатрэбны, тут дастаткова кінаўстановак у дамах культуры і клубах, ды і чатыры кінатэатры г. Віцебска побач. Колькасць віцебскіх кінатэатраў абумоўлена тым, што, згодна з нарматывам, у гарадах на кожныя 150 тыс. жыхароў павінна быць не менш аднаго кінатэатра.

Сцвярджэнне Г. Галыжэнкава аб тым, што на ўсіх узроўнях кінафікацыю Віцебскай вобласці ўзначальваюць кіраўнікі, якім пад 70 гадоў, не адпавядае рэчаіснасці. Адзіны кіраўнік такога ўзросту — гэта дырэктар Віцебскага раённага кінавідэапрадпрыемства, заслужаны работнік асветы Рэспублікі Беларусь Грэшчанка Вера Фёдараўна. У Віцебскім райвыканкаме і ў ВА «Кінавідэапракат» аблвыканкама яе лічаць адным з лепшых работнікаў галіны.

**— Раскажыце, калі ласка, аб рэстаўрацыі Нясвіжскага замка.**

**Сям'я настаўнікаў КОВАЛЬ, Нясвіж.**

У снежні мінулага года Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнка падпісаў распараджэнне «Аб рэстаўрацыі палацава-паркавага ансамбля XVI—XVIII стагоддзяў у г. Нясвіжы». Згодна з ім вызначана праектная арганізацыя — інстытут «Мінскграмадзянпраект», якая зараз распрацоўвае навукова-рэстаўрацыйную дакументацыю. Тэрмін яе разгляду і зацвярджэння — канец 1998 года. Да канца трэцяга квартала 1999 года ансамбль будзе перададзены з балансу «Белмежкалгасздраўніцы» на баланс Міністэрства культуры і пачнуцца работы па яго рэстаўрацыі і прыстасаванню да патрэб музеяў і турыстычнага наведвання. Фактычна ўжо ў 2001 годзе палацава-паркавы ансамбль паэтапна зможа прымаць турыстаў.

**— Чаму музей І з'езда РСДРП заняты камерсантамі?**

**Таццяна СУПРАНЕНКА, мінчанка.**

Звесткі аб размяшчэнні на плошчах Дома-музея І з'езда РСДРП камерцыйных структур не маюць пад сабою ніякіх падстаў. У музеі даўно ніякіх камерсантаў няма.

**— Не адзін год ствараўся музей пад адкрытым небам у вёсцы Строчыцы, што пад Мінскам. Але дасюль туды не пракладзены маршрут для турыстаў. Які лёс чакае музей?**

**Людміла ШЭПЕТ, гісторык.**

Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту працягвае фарміравацца. Турыстычны маршрут да яго пракладзены ад кальцавой дарогі вакол Мінска праз вёску Азярцо. Што датычыцца турыстычнага маршруту ад Брэсцкай шашы ўздоўж Воўчкавіцкага вадасховішча, то на сёння яго стварэнне не лічыцца мэтазгодным з-за вялікіх фінансавых выдаткаў. Фінансаванне дзейнасці музея, у тым ліку па рэстаўрацыі помнікаў драўлянага дойлідства, ажыццяўляецца Міністэрствам культуры ў планавым парадку. На сёлетні год запланавана распачаць будаўніцтва пажарнага дэпо, закончыць работы па ўстаноўцы агароджы тэрыторыі музея і правесці неабходныя рамонтныя работы на помніках.

**(Заканчэнне будзе.)**

**«Прамую лінію» падрыхтавала Таццяна АНТОНАВА.**

**Беларусь з'яўляецца перавалачнай базай, праз якую сотні аўтамабіляў па фіктыўных дакументах трапляюць на расійскую прастору. Аферысты грэюць рукі, пакупнікі «гараць», а міма бюджэту «пралятаюць» мільёны долараў.**

# «МЕРСЕДЭС» ад «Станіслава Рышардавіча»

Летась жыхарка Цюменскай вобласці Лілія Аляксандраўна Ашыхміна купіла «Мерседэс-Бенц» 1990 года выпуску ў Станіслава Рышардавіча Сянко, які пражывае ў Гродне па праспекце Карла Маркса. Для пераважнай большасці нашых чытачоў у гэтым пакуль нічога дзіўнага няма. Напэўна, толькі ўважлівыя гродзенцы, асабліва старажылы, адразу заўважаць памылку. Справа ў тым, што ў гонар заснавальніка навуковага камунізму ў горадзе над Нёманам назвалі зусім не праспект, а вуліцу, прычым не самую шырокую, з аднабаковым рухам транспарту.

Мо, афармляючы пакупку, нешта пераблыталі? З праверкі дакументаў вынікае, што «пераблыталі» ўсё. На вуліцы Карла Маркса яшчэ не пабудаваны жылы дом пад такім нумарам. А што датычыцца Станіслава Рышардавіча Сянко, дык гэта асоба сярод гродзенцаў не заўважана. Атрымліваецца, што прадавец шыкоўнага «Мерседэса» — гэта бомж, які хаваецца ад маразоў у нейкім падвале, а калі пацяплее — перамяшчаецца ў лясок паблізу смеццевай звалкі.

Аўтамабіль славутай маркі, які перайшоў ад спадара «Сянко» да спадарыні Ашыхмінай, у ДАІ Гродзенскай вобласці ніколі не бачылі. Тэхпашпарт, іншыя дакументы аб рэгістрацыі і зняцці з уліку гэтых «колаў», афармленні іх продажу, пячаткі, штампы, подпісы службовых асоб — усё падробленае. Афера «ўсплыла» пасля таго, як цюменскія «даішнікі» прыслалі ў Гродна адпаведны запыт.

Дарэчы, такая праверка папярэднічае цяпер рэгістрацыі кожнага аўтамабіля, які трапляе ў Расію з тэрыторыі нашай краіны. За мінулы год у ДАІ Гродзенскай вобласці атрымалі ад расіян каля 45 тысяч запытаў плюс яшчэ прыкладна 15 тысяч — з беларускіх рэгіёнаў. Не скарачаецца гэты паток і сёлета: штодзённа калегі «падкідваюць» гродзенцам каля 300 запытаў. І калі б у ДАІ не стварылі банкі даных, не задзейнічалі моцныя камп'ютэрныя праграмы — «патанулі» б у папяровым вале. А так з горам папалам, але неяк спраўляюцца. Хаця штат супрацоўнікаў, якія правяраюць запыты і рыхтуюць адказы, давялося павялічыць. Сёння гэтым займаюцца 12 чалавек, літаральна не выходзячы з кабінета.

І вось вынікі іх работы за два апошнія гады. Праверкі не вытрымалі не дзесяткі, і нават не сотні, а тысячы аўтамашын. Дакладней, 11 тысяч 256. Дакументы, у якіх фігуравала Гродзеншчына, былі падробленыя.

Начальніку абласной дзяржаўтаінспекцыі Вітаславу Лясоцкаму і яго намесніку Казіміру Дамблеўскаму сярод вялізных стосаў папер, якія чакаюць подпісу ў іх службовых кабінетах, зусім не цяжка адшукаць узоры выяўленай «ліпы» накшталт вышэйпамянёнага праспекта Карла Маркса. Акрамя яго, у Гродне ўжо ёсць плошча Свабоды і не трэба здзіўляцца, калі заўтра на карце прыгранічнага горада з'явіцца вуліца Хрыстафора Калумба альбо праспект Настрадамуса.

Асноўны напрамак мастацка-крымінальнай творчасці — тэхпашпарты. Старыя, яшчэ савецкія, падрабляюцца рэдка. Значна часцей — беларускія бланкі, у тым ліку і апошняга ўзору з пластыку. Якасць некаторых падробак такая, што не толькі пачынаючы супрацоўнік ДАІ, але і спецыяліст са шматгадовым стажам не здольны выявіць іх «на вока», надзея хіба што на камп'ютэрны ўлік ды яшчэ на спецыяльны прыбор, якіх на ўсю вобласць пакуль шэсць.

Па ацэнках праваахоўных органаў, крымінальны аўтабізнес выкарыстоўвае паліграфічную базу Расіі, Літвы, Польшчы. Верагодна, што падпольныя «майстэрні» існуюць і ў нас. Летась у аднаго жыхара Прынёманскага краю супрацоўнікі ўпраўлення па арганізаванай злачыннасці і карупцыі выявілі амаль 40 бланкаў пасведчанняў аб рэгістрацыі транспарту, завераных у Польшчы пячаткай натарыуса. Бланкі тэхпашпартоў былі на любы густ — беларускія, нямецкія, італьянскія, іспанскія, шведскія. Таксама меліся падробленыя пячаткі і штампы мытні, адзначаныя дэкларацыі аб перасячэнні мяжы. Навошта ўсё гэта? На момант затрымання гэтага дзялка адразу 8 іншамарак знаходзіліся ў рабоце — мяняліся нумары асноўных агрэгатаў.

А напрыканцы мінулага года некалькі падробленых дакументаў, па якіх машыны збываюцца ў Расію, адзін гродзенскі аферыст, каб замесці сляды, выкінуў у акно. Але наручнікі на яго руках усё ж зашчоўкнуліся. Дарэчы, летась на Гродзеншчыне ўзбуджана каля дваццаці крымінальных спраў, звязаных са збытам транспарту па фіктыўных дакументах.

Вернемся да грамадзяніна «Станіслава Рышардавіча Сянко». Дзе шукаць яго сляды? З Гродна накіроўць у Цюменскую вобласць звесткі пра гэту аферу, пасля чаго для грамадзянкі Ліліі Аляксандраўны Ашыхмінай (калі менавіта яна і ёсць сапраўдны пакупнік, бо магчымы і іншыя варыянты) толькі пакутамі нервовай сістэмы не скончыцца. У лепшым выпадку справа дойдзе да суда і той прызнае спадарыню Ашыхміну добрасумленным пакупніком, якога абдурыў аўтажулік. Калі так — «Мерседэс» зарэгіструюць, аднак, паколькі машына не прайшла мытнага афармлення ў Беларусі, на растаможку трэба будзе раскашэліцца па расійскіх, значна вышэйшых, расцэнках. Можна і ўвогуле застацца «з носам», г. зн. з аўтамабілем, якому адмоўлена ў рэгістрацыі. Відавочна, што глеба для хабарніцтва даволі спрыяльная.

У Гродзенскай абласной дзяржаўтаінспекцыі няма дакладнай інфармацыі наконт лёсу машын, па якіх у Расію накіраваны адказы аб падробленых дакументах. Але тое, што на карту пастаўлены проста шалёныя грошы (адмоўны адказ азначае страту тысяч долараў), тут адчуваюць добра. Мяркуйце самі, што гэта за адчуванні. Ужо пагражалі жанчынам, якія працуюць з расійскімі запытамі, мужы сустракалі іх пасля работы. Былі пагрозы і паштальёнам, якія забіраюць у ДАІ карэспандэнцыю, маўляў, пакажы, інакш не паздаровіцца. Відаць, не выпадкова памянялі паштовае аддзяленне, якое абслугоўвае дзяржаўтаінспекцыю. Бывае, што пісьмы так і не даходзяць па прызначэнню, бо на нейкім этапе іх перахопліваюць зацікаўленыя асобы. Падрабляюцца не толькі тэхпашпарты, але і адказы на запыты. Некаторыя фальшыўкі кідаюцца ў паштовую скрынку, але ў сувязі з няправільным запаўненнем беларускага канверта трапляюць не ў расійскую, а ў нашу дзяржаўтаінспекцыю, якая, мяркуючы па гэтай паперцы, дае «зялёнае святло» навюткаму «БМВ» ці «Мерседэсу». Здараецца і так, што расійскі адрасат атрымлівае адразу два процілеглыя адказы з горада над Нёманам. З аднаго, сапраўднага, вынікае афера. А калі верыць другому — усё як мае быць, аўтамабіль рэгістраваўся ў Гродне, зняты з уліку і прададзены ў поўнай адпаведнасці як з беларускім, так і расійскім заканадаўствам. І зноў — перапіска.

Можна падлічыць, колькі грошай расходуюць нашы падаткаплацельшчыкі на канверты, у якіх Гродзенская дзяржаўтаінспекцыя дасылае сваім расійскім калегам адказы на іх запыты. У сувязі з гэтымі і іншымі, значна большымі, расходамі «на праўду» паўстае заканамернае пытанне: а дзе ж тут беларускі інтарэс? Давайце падлічым. 11 тысяч 256 машын, якія за два гады трапілі ў Расію па падробленых дакументах, не прайшлі мытнага афармлення на Гродзеншчыне. Каштуе гэта працэдура па-рознаму. Калі сярэдняй сумай лічыць 800 долараў (зыходзячы са стаўкі 0,3 ЭКЮ за 1 куб. см аб'ёму рухавіка для аўтамабіляў, якія набываюцца ва ўласнае карыстанне), дык атрымліваецца, што міма нашага бюджэту «праляцела» дзевяць мільёнаў «зялёных» з гакам. Аднак для «Мерседэса» спадара «Сянко» расцэнкі іншыя. І калі браць мытныя пошліны па памеры 5 ЭКЮ за 1 куб. см аб'ёму рухавіка (для машын, якія прыганяюцца на продаж), дык бюджэтныя страты павялічваюцца ў 17 разоў. За такія інвестыцыі альбо крэдыт трэба яшчэ пазмагацца. А тут не трэба плаціць ніякіх працэнтаў...

Дык што, нашай казне не патрэбна гэтая валюта? Як удаецца тысячам патрыманых і зусім новых іншамарак пазбегнуць растаможкі? У дзяржаўтаінспекцыі лічаць, што гэта напрамую звязана з «правіламі гульні» ў адносінах да аўтамабіляў, якія трапляюць на нашу тэрыторыю з-за мяжы.

У Літве як? Чалавеку дазволена хоць штодзённа прыганяць з той жа Германіі ці Галандыі неабмежаваную колькасць машын. Зарэгістраваў гэтыя «колы» і, калі хочаш, у той жа дзень здымай іх з уліку і накіроўвайся на рынак. Але за кожнае аўто абавязкова заплаці падатак. Ён значна меншы, чым у нас, аднак у сувязі з вялізнай колькасцю аўтатавару бюджэту выгадна. Гандляру — таксама.

Не зусім такі, але падобны парадак калісьці існаваў і ў нас. Вядома, і тады не абыходзілася без крыміналу. Аднак з'яўляецца фактам і тое, што фінансавыя паступленні ў дзяржаўны «кашалёк» былі значна большымі, чым сёння.

Цяпер парадкі іншыя. Афармляюць на мытні машыну, чалавек два гады не мае права яе прадаць. Дазволены ўвоз і ільготны ўвоз аднаго аўтамабіля ў год з аплатай пошліны 0,3 ЭКЮ за 1 куб. см аб'ёму рухавіка. Гэтая стаўка лічыцца льготнай, за другую машыну трэба заплаціць 5 ЭКЮ за 1 куб. см. Відавочна, што ў такой сітуацыі ў ход ідуць самыя розныя спосабы, каб абысці закон.

Летась памяняліся мытныя правілы. Прадугледжана аплата пошліны непасрэдна на пагранічным пераходзе, каб нерастаможаныя аўто не «растваралісь» на неабсяжнай прасторы СНД. Аднак і на рынку, і ў рэкламнай прэсе па-ранейшаму шмат нерастаможаных машын. Адкуль жа яны бяруцца? Справа ў тым, што пытанне аб мытных плацяжах на пагранпераходах да канца не вырашана, такі парадак дзейнічае не ўсюды. Да таго ж гэтае новаўвядзенне датычыцца толькі тых, хто пражывае ў рэгіёне, які абслугоўвае тая ці іншая мытня. А на расіян гэта ўвогуле не распаўсюджваецца.

Існуе і такая норма, як часовы ўвоз аўтамабіля, зарэгістраванага ў іншай дзяржаве. Атрымаўшы даверанасць ад чужаземца, можна не плаціць мытную пошліну. Пры гэтым такія машыны, іх нумарныя знакі нідзе не рэгіструюцца. На думку начальніка ДАІ Гродзенскай вобласці Вітаслава Лясоцкага, гэта завуаліраваная магчымасць для рэалізацыі аўтамабіляў без растаможкі.

Дарэчы, праблема не толькі ў грашах. У 1996 годзе ў абласным цэнтры здарыліся дзве аварыі са смяротным зыходам. Збіўшы людзей, машыны з замежнымі нумарнымі знакамі зніклі. У дзяржаўтаінспекцыі ведаюць гэтыя нумары, зрабілі запыт на мытню — ніякіх звестак. Аналагічная сітуацыя з украдзенымі за мяжой аўтамабілямі. Камп'ютэрнай базы наконт іх, у адрозненне ад ДАІ, на мытні няма, валодаюць толькі інфармацыяй па канкрэтных сігналах. Вельмі верагодна, што «Таёта» 1997 года выпуску, якая па падробленых дакументах (зноў жа «ліпавыя» прозвішча і адрас прадаўца) «трапіла» ў Расію.

Зразумела, у дачыненні да вышэйпамянёных праблем узнікае спрадвечнае пытанне: што рабіць? Гэта кампетэнцыя адпаведных службаў. А на мой погляд, трэба зрабіць усё, каб было менш крыміналу, лепш — бюджэту, а таксама добрасумленным пакупнікам і аўтагандлярам.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

***З АЛІМПІЙСКІМ ПРЫВІТАННЕМ!***

*Дзмітрый ДАШЧЫНСКІ:*

# «ГАЛОЎНАЕ Ў ФРЫСТАЙЛЕ — НЕ ДУМАЦЬ ПРА ДЗЯЎЧАТ. ДРЭННА ПРЫЗЯМЛІШСЯ, ДЫК І ДЗЯЎЧАТЫ НЕ СПАТРЭБЯЦЦА»

***Мытнікі аэрапорта «Мінск-2» злітаваліся і прапусцілі мяне аж да самалёта рэйса Варшава — Мінск, які толькі-толькі прызямліўся. Ну не будзе ж на самай справе карэспандэнт «Звязды» захопліваць той самы самалёт! А вось з бронзавым прызёрам надаўняй Алімпіяды ў Нагана фрыстайлістам Дзмітрыем ДАШЧЫНСКІМ пагутарыць абавязкова.***

...Прама ў зале прыбыцця зручней уладкоўваемся з Дзімам у мяккіх крэслах, узнімаем бакалы з шампанскім за перамогу і пачынаем гутарку.

**— Для многіх твая алімпійская «бронза» стала ў нейкім сэнсе нечаканасцю.**

— Не ведаю, не ведаю. Асабіста ў мяне было адчуванне, што я магу добра скокнуць і быць калі не першым, то хаця б у тройцы прызёраў.

**— У першую чаргу рабілася стаўка на твайго сябра па камандзе Васю Вараб'ёва?**

— Можа і так, аднак спорт ёсць спорт — сёння ты ўверсе, заўтра на тваім месцы ўжо другі. Хоць, шчыра скажу, за Васю было крыўдна — хутчэй за ўсё, гэта яго апошняя Алімпіяда і, пагодзімся, не трапіць на ёй нават у лік дванаццаці фіналістаў, прыемнага мала. Тым больш, калі цябе акрамя ўсяго іншага «адкрытым тэкстам» засуджваюць суддзі.

**— Не крыўдуе на цябе Васіль?**

— Можа калі толькі ў душы, але я добра ведаю Васеў характар і не думаю, што на мяне за штосьці можна «мець зуб» — усе ж былі ў аднолькавых умовах. Да таго ж з трэнерамі распрацавалі напярэдадні новую праграму — трайное сальта з чатырма «вінтамі» — і ўпершыню апрабаваў яе на снезе падчас Кубка свету ў Амерыцы. Атрымалася нядрэнна і, як вы ведаеце напэўна, у кваліфікацыйных спаборніцтвах на Алімпіядзе я быў нават першым.

**— Як лічыш — твой бронзавы алімпійскі медаль — гэта выпадковы поспех аднаго Дзмітрыя Дашчынскага ці ўсіх беларускіх лыжных акрабатаў?**

— Вядомая справа, усіх. У нашай камандзе было пяць кандыдатаў, і ўсе пяць рэальна маглі прэтэндаваць на медаль. Але ж вы паглядзіце, у якой кампаніі мы знаходзімся — з канадцамі, французамі, амерыканцамі. Краіны, дзе фрыстайлу дадзена «зялёнае святло» амаль на ўсім — тут вам і матэрыяльная база, і ўмовы падрыхтоўкі. У нас жа ў рэспубліцы, па сутнасці, і трэніравацца няма дзе.

**— Я ведаю, што твой бацька — твой жа і трэнер. Гэта дапамагае нейкім чынам?**

— Безумоўна. Па-першае, бацька ён заўсёды можа па-бацькоўску параіць, падказаць і, што самае галоўнае, падтрымаць маральна.

**— Дзягай, калі трэба, урэзаць...**

— Не, ну гэта ўжо занадта, хоць у дзяцінстве, бывала, і перападала, калі сваволнічаў у басейне, дзе бацька працаваў трэнерам. Ён жа туды мяне і прывёў у чатыры гады. Навучыў плаваць, пасля скакаць з вышкі ў ваду — так я і стаў фрыстайлістам.

**— Ты можаш сказаць, што ў фрыстайле цяжэй за ўсё? Пераадолець страх? Настроіцца псіхалагічна?**

— Цяжэй за ўсё добра штурхнуцца на старце.

**— І не думаць у палёце пра дзяўчат?**

— Во-во! Бо, калі дрэнна прызямлішся, дык табе ўжо пасля ніякія дзяўчаты не спатрэбяцца.

**— Табе зараз дваццаць. Зараз пасля Алімпіяды ў Дзімы Дашчынскага напэўна адбою ад слабай палавіны не будзе?**

— Ды не, я сціплы.

**— Такі ўжо і сціплы?**

— Ну, расказвалі мне, што ў дзіцячым садзе я так закахаўся ў адну дзяўчынку, што нават ледзь не плакаў, калі яна з'язджала з бацькамі на новае месца жыхарства. Сёння з гэтага можна толькі пасмяяцца.

**— Мара ёсць?**

— Верыць у поспех, у дасягненне нейкіх ідэалаў, заўсёды імкнуцца да гэтага.

**— А ідэал?**

— Я нікога не ідэалізую. У мяне ёсць свой стыль, таму, калі мяне пытаюць, чаму я фарбуюся ці нашу завушніцу ў вуху, стараюся не адказваць на гэта пытанне. Я ні пад кога не «падстройваюся» — гэта мой імідж.

**— Захапленні?**

— Электронная музыка. Можа таму, што, слухаючы яе, я адчуваю сябе як у фрыстайле: такое своеасаблівае адчуванне палёту.

**— Што ж, яшчэ раз з алімпійскай «бронзай» — і поспеху ў будучых стартах!**

**Алесь СІВЫ.**




*Дзмітрый ДАШЧЫНСКІ — крайні справа — на п'едэстале гонару.*

## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 7.01 | 17.44 | 10.43 |
| Віцебск – | 6.53 | 17.32 | 10.39 |
| Магілёў – | 6.51 | 17.33 | 10.42 |
| Гомель – | 6.46 | 17.32 | 10.46 |
| Гродна – | 7.16 | 17.59 | 10.43 |
| Брэст – | 7.15 | 18.02 | 10.47 |

### МЕСЯЦ

**Маладзік 26 лютага з 9.12 — 3-я месяцавыя суткі. З 8.43 Месяц — у сузор'і Авена.**

### ІМЯНІНЫ

**Пр. Анісіма**
**К. Людаміра, Рамана**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае надвор'е, часам ападкі, пераважна ў выглядзе дажджу. Тэмпература паветра ў Віцебску — 3—5, Гродне і Мінску — 4—6, Магілёве — 5—7, Брэсце і Гомелі — 6—8 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак воблачна з праясненнямі, месцамі невялікія ападкі, уначы 1 сакавіка на большай частцы тэрыторыі ападкі ўмераныя. Тэмпература на працягу сутак — мінус 3 — плюс 2; уначы 2-га па поўдні рэспублікі да 5 градусаў марозу.

***Всебелорусский клуб избирателей зарегистрирован в Министерстве юстиции Республики Беларусь 20 декабря 1994 г. Свидетельство № 0023.***

# «МЫ ДУМАЛІ МАСЛЕНКІ — СЕМ НЯДЗЕЛЕК»


Фота Васіля ЗЯНЬКО.

В А ЎСІХ СЛАВЯНСКІХ НАРОДАЎ бадай што самым вясёлым і працяглым святам была Масленіца (Масленка, сырная седміца,Запусты). Сярод вучоных, якія займаліся даследаваннем гісторыі культуры славян, не было і няма адзінства адносна дакладнага часу прымеркавання гэтага свята і яго асноўнага прызначэння, месца і ролі ў колазвароце земляробчага календара. З аднаго боку, існуе думка, што Масленіца заканчвала зіму, з другога — што яна святкавалася ў гонар вясны, якой з нецярплівасцю чакае ўсё жывое на зямлі. Тэрмін правядзення свята рухомы і залежыць ён ад часу святкавання Вялікадня. Масленічны тыдзень заўсёды заканчваецца напярэдадні сямітыднёвага передвелікоднага посту, у час якога хрысціянская царква строга забараняла ўсякія гульні і забавы.

Аднак у больш даўнія, дахрысціянскія часы Масленіца святкавалася амаль што на працягу месяца і была прымеркавана да часу веснавога сонцастаяння. Арэал бытавання традыцыі святкаваць Масленіцу прасціраецца ад Сібіры і да Іспаніі, прычым у краінах Заходняй Еўропы свята выліваецца ў агульнанародны карнавал, падчас якога цалкам знікае сацыяльнае размежаванне паміж прадстаўнікамі розных слаёў грамадства і ўсюды пануе вясёласць, роўнасць, адзінства і гумар. У пэўнай ступені карнавальны характар мае святкаванне Масленіцы ў асобных рэгіёнах Расіі.

На Беларусі Масленіца больш стрыманая, не такая разгульная, але ж таксама даволі вясёлая і гуллівая. Уважлівы разгляд шматлікіх абрадаў і звычаяў, якімі было прасякнута святкаванне, паказвае, што ў ім можна выдзеліць тры ўзаемазвязаныя плыні: абрады ў гонар бога Вялеса (Валоса), абрады, звязаныя з культам продкаў, і рытуальныя дзеянні, у цэнтры якіх знаходзілася вясковая моладзь.

Як растлумачыць такую незвычайную назву свята? Думаецца, што вясковаму люду значна прасцей знайсці правільнае тлумачэнне. Справа ў тым, што якраз у гэты перыяд (другая палова лютага — пачатак сакавіка) у вёсках ідзе пагалоўны ацёл і акот. Зразумела, што ў сувязі з гэтым на сялянскім святочным стале галоўнае месца займаюць малочныя прадукты: сыр, масла, заквашаныя бліны, якія зноў-такі надзвычай смачныя, калі ўжываюцца з маслам. «Масла на стале — Масленіца на двары», — казалі ў народзе.

Навукоўцы—фалькларысты і этнографы лічаць, што Масленіца адзначалася ў гонар бога Вялеса (Валоса), які з'яўляўся ахоўнікам жывёлы. Вялес на працягу года зберагаў статак, надаваў яму сілу, клапаціўся пра павелічэнне, таму свята («сырная седміца») было ўрачыстай падзякай богу-ахоўніку. Пазней, з прыняццем хрысціянства, адным з цэнтральных момантаў свята стаў чацвер на масленічным тыдні, у які ўшаноўваўся святы Уласій як прадаўжальнік язычніцкага Вялеса (чаму ў значнай ступені, відаць, садзейнічала гукавое падабенства, блізкасць імён). Уласій — хрысціянскі святы з армянскага горада Севастыі, якога ў 312 г. зляаілі язычнікі і адсеклі галаву за тое, што ён не пажадаў пакланяцца старым багам, а прыняў веру Хрыста.

Да нашага часу ў розных мясцовасцях Беларусі масленічны чацвер так і называецца «Валосам» або «святым Уласам». У гэты дзень спраўляліся загавіны на скаромнае, таму жанчыны з самага ранку завіхаліся каля печы, рыхтавалі багатую страву са свініны і ялавічыны, пяклі жытнія, аўсяныя ці ячныя бліны. Звычайна выпякаўся цэлы стос бліноў, першы з якіх яшчэ цёплым клалі на дахавае акенца для продкаў. У народным асяроддзі лічылася, што ў гэты дзень на зямлю вяртаюцца душы памерлых сародзічаў. Яны сілкуюцца парай ад першага рытуальнага бліна, таму ж, хто парушыць гэтую сямейна-радавую завядзёнку, продкі не даруюць і наклічуць бяду. Менавіта з гэтай нагоды і пачуеш: «Першы блін комам». Гаспадар разразаў стос бліноў крыж-накрыж, а кожны член сям'і браў асобную чвэрць, скручваў яе трубачкай і мачаў у тварог з разагрэтым маслам.

Гэты ж дзень быў вельмі адказным для гаспадара, таму што толькі на святога Уласа трэба было аб'язджаць маладых коней, аб чым спявалася ў святочных песнях:

*Наша Масленіца гадавая,*
*Яна госцейка дарагая.*
*Яна пешаю к нам не ходзіць —*
*Усё на коніках раз'язджае.*
*Штоб конікі былі вараныя,*
*Штоб слугі былі маладыя.*

Дзеля гэтага абавязкова рабіліся новыя сані. Маладога наравістага каня прыручалі гуртам за ваколіцай вёскі, каб перасцерагчы сябе ад розных непрадбачаных выпадкаў. У сані садзіліся некалькі хлопцаў і ганялі каня да таго часу, пакуль не абвыкнецца са збруяй, не стане слухацца гаспадара.

Потым каня выпрагалі і ўважліва прыглядаліся да яго паводзінаў: калі ён лёгка пабяжыць да двара, гаспадар быў задаволены, разумеў, што выгадаваў сабе добрага памочніка; калі конь ледзьве плёўся, то яго звычайна далей не гадавалі.

У гэты ж дзень моладзь (хлопцы і дзяўчаты) ладзілі «гойданкі», гушкалкі. Гушкаліся звычайна ці на варотах, ці ў гумне. Прычым імкнуліся ўзлятаць на дошцы як мага вышэй, бо казалі так: «Гэта гойдаюцца для таго, каб на той год рос лён доўгі і моцны».

Прыкметнае месца ў святкаванні Масленіцы займалі абрады, звязаныя з прадаўжэннем роду чалавечага, і абрады, скіраваныя на веснавое абуджэнне прыроды. У славянскім свеце яшчэ напярэдадні свята рабіліся спецыяльныя ледзяныя горкі, якія сімвалізавалі сабой цяжарны стан маці-прыроды. І вось на святы з гэтых горак (на Беларусі замест іх маглі выкарыстоўвацца бераг ракі або проста пагоркі) каталася моладзь, якая ўзяла шлюб у апошні Мясаед—час паміж Вадохрышчам і Масленкай. Каталіся на санках, на «маразянках» (абкладзеных гноем і абмарожаных лёдам кашах) або на лядзянках — высечаных з ракі кавалках лёду.

Кожны з удзельнікаў гульні зноў-такі імкнуўся заехаць як мага далей, каб улетку рос лёндаўгунец. У некаторых раёнах Віцебшчыны ў мінулым стагоддзі, перш чым катацца на санках, жанчыны павінны былі з'ехаць з гары на прасліцы. Калі ж здарыцца так, што яна не ўтрымаецца на нагах і ўпадзе, то ёй прадказвалі смерць або якое-небудзь няшчасце, якое перашкодзіць браць лён. Адначасова верылі, што вясёлая гульня мела на мэце разбудзіць пасля доўгага зімовага сну навакольнае асяроддзе, прыроду, зямлю. Вядома, напрыклад, павер'е, што на святога Уласа першы раз павінен заспяваць жаваранак, які, лічылі, не ляцеў у вырай, а зімаваў тут.

Спецыфічнай асаблівасцю Масленкі было, з аднаго боку, ушанаванне жанатай моладзі, а з другога — рытуальнае пакаранне хлопцаў-пераросткаў. Так, на Беларусі значнае пашырэнне атрымаў абрад «разуванне маладой», актыўнымі ўдзельнікамі якога былі замужнія жанчыны. Збіраліся яны гуртам і абыходзілі двары, гаспадары якіх нядаўна справілі вяселле, аддаўшы замуж дачку. Для кожнай маладухі яны спявалі магічна-заклінальныя песні з пажаданнем нарадзіць сына ці дачку.

Іншыя адносіны былі да тых хлопцаў (радзей дзяўчат), якія дасягнулі сталага ўзросту, але пакуль што не стварылі сям'і. Тыя ж жанчыны насілі з сабой невялічкую драўляную калодку (у больш позні час — трэску, бант або рознакаляровыя стужкі) і прывязвалі яе да нагі хлопцаў-пераросткаў. Гэта было своеасаблівым пакараннем за тое, што хлопец не хацеў прытрымлівацца спрадвеку выпрацаванага абавязку прадоўжыць свой род. Звычай гэты ідзе з глыбіні стагоддзяў, калі шлюб успрымаўся абавязковым этапам у жыцці кожнага чалавека. Адвязаць калодку або зняць бант, стужку, хлопец меў права толькі тады, калі адкупіцца — дасць некалькі манет і добра пачастуе жаночы гурт.

Рэшткі гэтага старадаўняга абраду захаваліся да нашага часу ў звычаях наведваць сародзічаў на масленічным тыдні. Скажам, у пятніцу зяці хадзілі да цешчы на бліны і, наадварот, у суботу нявесткі прымалі ў сябе сваякоў. Абавязковай госцяй усіх гэтых святочных застолляў была бабка-павітуха, хросныя бацька і маці.

Заканчвалася Масленіца ў нядзелю. У розных славянскіх народаў у гэты дзень спраўлялі «провады Масленкі» — саламянага чучала, якое вывозілі на поле, на самы высокі пагорак, дзе былі пасеяны азімыя, спальвалі, перадаючы тым самым цяпло сонцу, каб яно хутчэй абуджала прыроду. Попел рассыпалі і затоптвалі ў снег дзеля таго, каб палетак даў добры ўраджай, каб памершае на зіму зерне зноўку аднавілася ў сваёй моцы і прыгажосці. На Беларусі саламяную Масленку палілі не паўсюдна, а толькі ў паўночных і ўсходніх раёнах, радзей — на Міншчыне. Спальванне чучала сімвалізавала сабой развітанне з зімой і сустрэчу доўгачаканай вясны, таму суправаджалася вясёлымі гульнямі, песнямі.

Вечарам таксама спраўлялася вячэра — «запускі» на малако. На стол ставіліся толькі малочныя стравы, сярод якіх галоўнае месца займалі сыр, масла і тварог з малаком. Вечар гэты быў незвычайны. Ён меў рытуальна-магічны і сацыяльна-нарматыўны характар. Людзі развітваліся з вясёлым святам, жадалі адзін аднаму шчасця, здароўя, сямейнага дабрабыту, настройвалі сябе на новы працяглы (цяпер ужо сямітыднёвы) пост, аж да самага Вялікадня:

*Мы думалі Масленкі —*
*сем нядзелек, сем нядзелек,*
*Ажно Масленкі сем дзянёчкаў,*
*сем дзянёчкаў!*
*Нас Масленка абманіла,*
*абманіла:*
*На сем нядзель паста пасадзіла, пасадзіла.*
*На белу капусту, капусту,*
*На горкую рэдзьку, на рэдзьку,*
*Ай, люлі, на рэдзьку.*

Заканчвалася вячэра абрадам развітання і ўсеагульнага прабачэння, даравання. Гаспадар садзіўся на кут, да яго па чарзе і па ўзросту падыходзілі браты, сыны, дочкі і прасілі прабачэння словамі: «Прасці, бацька родны, калі чым саграшыў перад табою, справай ці языком». Затым бацька ўставаў, ішоў на сярэдзіну хаты і ў сваю чаргу нізка кланяўся да зямлі ўсяму сямейству і таксама прасіў даравання за нядобрае слова або благі ўчынак.

Давайце прыслухаемся да традыцыі нашых продкаў, знойдзем у сабе духоўныя сілы і ў свята і ў будзённы час заставацца людзьмі, для якіх чалавек — найвялікшая каштоўнасць Сусвету. Даруем адзін аднаму нашы памылкі. Магчыма, гэта тое адзінае, што ўратуе нас сёння і захавае для будучыні.

**Іван КРУК.**

# КРАСА І СІЛА



## АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПАЭЗІІ

Шаноўныя чытачы, аматары беларускага паэтычнага слова, сёння мы распачынаем новую рубрыку ў нашай газеце. Кожную суботу чакайце сустрэчы з самымі лепшымі ўзорамі айчыннай паэзіі. Месца будзе ўсім: класікам адышоўшым і жывым, сталым паэтам і, вядома, маладым. Бо ўжо ў іхніх душах ды з іхніх вуснаў адмыслова, па-свойму пераўвасобленыя, гучаць паэтычныя руны папярэднікаў. Амаль ва ўсіх з вас ёсць свае ўлюбёныя паэты, улюбёныя вершы. Таму і вы, калі ласка, будзьце ўдзельнікамі Анталогіі роднай паэзіі. Я ўпэўнены, што ў кожнага паэта ёсць хоць адзін анталагічны верш, таму і вас, мае сябры па пяры, запрашаю на старонкі «Звязды» са сваімі радкамі.

Не вялікі грэх, калі неўсвядомлена наследуеш паэзію нашых класікаў. Рускія сказалі б «по наитию». Дзякуючы Купалу, Багдановічу і я стаў сімвалістам у самым лепшым сэнсе гэтага слова. «Краса і сіла» — так называецца артыкул Максіма Багдановіча, прысвечаны Тарасу Шаўчэнку ў далёкім неспакойным 1914 годзе. Па-мойму, лепшага назову для нашай анталогіі не знойдзеш і не прыдумаеш.

Вялікай спакусаю было ўспомніць любоўную лірыку Максіма ці распачаць новую старонку заўсёды надзённым славутым творам «Пагоня». Але здаўна запаў мне ў душу адзін ягоны рамантычны верш з нізкі «Места». Чамусьці не часта і крытыкі ўзгадваюць гэты верш, і ў школе настаўнікі абмінаюць, а вы вось пачытайце ды насалодзьцеся яшчэ раз не да канца прачытаным, не да канца разгаданым ды зразуметым вечным Страцімам.


Максім БАГДАНОВІЧ

* * *

***За дахамі места памеркла нябёс пазалота:***
***Паветра напоена ціха гусцеючым мрокам;***
***Ўжо відна, як іскры злятаюць з трамвайнага дрота,***
***Як зоркі гараць і зрываюцца ў небе далёкам.***

***Музыкі стагнанне ліецца па вулках з бульвара,***
***Гараць і агнём машкару к сабе вабяць ліхтарні;***
***Ўкруг тоўстага шкла яна ўецца, як лёгкая хмара,***
***А к светлу прабіцца не можа... і томіцца марна.***

***І ўспомніў я час: срэдзь асенняй нахмуранай ночы***
***Музыка зайграла, агні ў вышыне запалалі,***
***І дыхалі грудзі шырока, свяціліся вочы...***
***Мы к светлу ўзляцелі... і шкло ўкруг яго напаткалі.***

**Анталогію вядзе Анатоль СЫС.**

***Ніл ГІЛЕВІЧ***

# Роздумы, рэплікі, згадкі

## (Са сшыткаў розных гадоў)

### ТАБЕ, ДАРАГАЯ АЙЧЫНА...

Летам 1950-га, пасля заканчэння трэцяга курса педвучылішча, я працаваў важатым у піянерскім лагеры «Будаўнік» — у Воўчкавічах, непадалёк ад Мінска. Там трапілася ў рукі — не помню ўжо, чыя была, — кніга Анатоля Гідаша з серыі «ЖЗЛ» пра вялікага венгерскага паэта Шандара Пецёфі. Я прачытаў яе з захапленнем, вобраз паэта і рэвалюцыянера запаў мне глыбока ў душу, — тым больш, што раней я ведаў пра Пецёфі зусім мала і, па-мойму, не чытаў з яго творчасці нічога.

У канцы жніўня, перад вяртаннем у педвучылішча, заехаў на некалькі дзён дадому. І знайшоў у хаце кніжачку (бацька аднекуль прынёс) публіцыстычна-сатырычных вершаў Ш. Пецёфі «Герои в дерюге» (здаецца, так называлася), выдадзеную ў Маскве ў бібліятэчцы «Крокодила». Трэба ж! Яшчэ жыву ўражаннямі ад прачытанага пра паэта, а тут — калі ласка! — і яго кніжачка вершаў, яго грамадзянская лірыка і сатыра. Адкрываўся зборнічак васьмірадковым вершам «Венгрия», які мне запомніўся адразу ж, бадай што з першага прачытання.

*Тебе, дорогая отчизна,*
*Хозяйкою быть не дано:*
*Обуглилось снизу жаркое,*
*А сверху — сырое оно.*
*Богатые, жадные люди*
*Объелись и все-таки жрут.*
*А бедные дети отчизны*
*В то время от голода мрут.*

Пазней я звяртаўся да паэзіі Шандара Пецёфі неаднойчы, мне вельмі імпанавала яго нацыянальна-патрыятычная, рэвалюцыйна-мяцежная лірыка. Ды і любоўная таксама — можа таму, што і ў ёй выяўляўся мужны, рашучы, мужчынскі характар. Помню, як уразіў мяне верш «Мое лучшее стихотворение», у якім паэт клянецца адпомсціць ворагам за здушаную чужацкім прыгнётам Венгрыю, за свой спакутаваны ў няволі народ.

*О, слово «смерть»*
*клинком горящим*
*Впишу я в тысячи сердец.*
*Вот это будет настоящим*
*Стихотвореньем наконец.*

Помню і многія іншыя яго вершы, такія сугучныя па настроі творчасці любімага мною балгарына Хрыста Боцева, кубінца Хасэ Марці, украінца Тараса Шаўчэнкі, беларуса Янкі Купалы... Што ні кажы, а эпоха нацыянальнага адраджэння паклікала да жыцця паэтаў не проста таленавітых, а вялікіх і магутных у сваёй творчай постаці, паэтаў-змагароў, паэтаў — нацыянальных герояў.

Прайшло амаль паўстагоддзя з тых дзён, калі я ўголас, усхваляванa і горача, чытаў у пустой вясковай хаце радкі:

*Тебе, дорогая отчизна,*
*Хозяйкою быть не дано...*

Ніякія іншыя радкі з усёй замежнай паэзіі я, мусібыць, не паўтараў у сваім жыцці так часта, як гэтыя.

*1997*

## БЕЛАРУСКІ НАРОДНА-АСВЕТНІЦКІ КАЛЯНДАР
## 28 лютага

530 гадоў таму (1468) выдадзены Судзебнік (Статут) Казіміра IV Ягелончыка — першы кодэкс крымінальнага і працэсуальнага права Вялікага княства Літоўскага.

90 гадоў з дня нараджэння (29.02.1908-1992) Я. І. Бяганскай, пісьменніцы.

85 гадоў з дня нараджэння (1913) І. В. Мядзведзева, графіка.

70 гадоў з дня нараджэння (1928) І. К. Германовіча, педагога, аўтара даследавання «Беларускія мовазнаўцы».

## КУЛІНАРНЫ БЛАКНОТ

# Масленічныя бліны

**Апошні тыдзень сёлетняй зімы супаў з Масленіцай — старажытным язычніцкім абрадам провадаў зімы. І, як вядома, галоўная рытуальная ежа гэтага перыяду — бліны. Удалыя бліны на масленіцу — прадмет асаблівай гордасці гаспадыні.**

**У вас, напэўна, ёсць свой спосаб пячы бліны, але добрыя рэцэпты ніколі не пашкодзяць. Толькі спачатку некалькі парад.**



● Для дражджавых бліноў вадкасць (малако, вада або сыраватка) бярэцца абавязкова цёплая, і ўсе астатнія прадукты (мука, яйкі і інш.) таксама не павінны быць халоднымі. Апару і гатовае цеста пакідайце ў цёплым месцы і захутайце ручніком.

● Калі ў доме няма міксера, прыгатаваць вадкае бліннае цеста без камячкоў — справа доўгая. Запомніце цвёрда: пры замесе ні ў якім разе нельга сыпаць муку ў вадкасць. Зрабіце так: усю муку, калі па рэцэпту яе не дзеляць на дзве часткі, змясціце ў шырокую міску або каструлю, зрабіце ў ёй пасярэдзіне паглыбленне і пакрысе ўлівайце туды вадкія інгрэдыенты, увесь час энергічна памешваючы. Спачатку пры гэтым утворыцца даволі густое цеста, якое без цяжкасці можна хутка вымесіць лыжкай да аднароднасці. Затым паступлова падлівайце астатнюю вадкасць, не перастаючы мяшаць і дабіваючыся патрэбнай гушчыні. Так вы будзеце пазбаўленыя ад многіх цяжкасцяў.

● Разрыхляльнікі — соду з лімоннай кіслатой — трэба класці толькі ў муку, прычым сухую, і ні ў якім разе не раствараць у вадкасці, інакш цеста не падыдзе.

● Ёсць некалькі спосабаў пазбегнуць лішку тлустасці бліноў пры выпяканні. У недражджавое цеста (на содзе або зусім без разрыхляльніка) непасрэдна перад выпяканнем дабаўце 2-3 сталовыя лыжкі алею і добра размяшайце. Тады дастаткова будзе змазаць патэльню алеем толькі для першага бліна, а астатнія можна пячы прама на сухой паверхні.

● Выпякаць бліны трэба заўсёды на добра разагрэтай патэльні. Калі яны дрэнна здымаюцца — дабаўце ў цеста адно-два яйкі.

● І галоўнае правіла: масленічныя бліны не любяць падагрэву. Іх трэба есці адразу, як спяклі.

**Такім чынам, пячом БЛІНЫ.**

**... святочныя**

*400 г мукі, 0,5 л малака, 15 г дрожджэй, 2 яйкі, чвэрць шклянкі смятаны або вяршкоў, соль.*

Муку падзяліце на дзве роўныя часткі. З адной прыгатуйце апару разам з малаком і дражджамі, пастаўце ў цёплае месца, каб падышла. Затым дабаўце жаўткі і астатнюю муку, добра размяшайце, уліце смятану або вяршкі. У апошнюю чаргу дабаўце ўзбітыя ў моцную пену бялкі. Цеста павінна падысці. Тады пячыце, асцярожна набіраючы лыжкай.

**... на скорую руку**

*300 г мукі, 3 яйкі, 100 г масла, 2 шклянкі кіслага малака або кефіру, чайная лыжка цукру, соль.*

Няцвёрдае масла разатрыце з жаўткамі, цукрам, замясіце з мукой і затым паступлова ўліце кіслае малако. Дабаўце ўзбітыя ў пену бялкі і адразу ж пячыце.

**... здобныя**

*300 г мукі, 50 г масла, 4 яйкі, 3 шклянкі малака, 30 г цукру, соль.*

Жаўткі разатрыце з цукрам, масла растапіце і змяшайце з мукой, паступлова падліваючы малако. Масу пастаўце на маленькі агонь і беспярапынна памешвайце, пакуль крыху не загусцее. Да кіпення даводзіць нельга. Затым астудзіце, дабаўце пену ўзбітых бялкоў і — можна смажыць.

**... на содзе**

*Шклянка мукі, 2-3 яйкі, 2 шклянкі малака. 2 сталовыя лыжкі цукру, соль, 3 сталовыя лыжкі алею, чвэрць чайнай лыжкі соды (без верху) і столькі некрышталічнай лімоннай кіслаты.*

Хутка замясіце з усіх прадуктаў цеста, дабавіўшы соду і лімонную кіслату ў сухую муку да замешвання. Алей уліце ў апошнюю чаргу. Цеста не павінна стаяць, выпякайце бліны адразу.

-1362-

## ВАШЫ ПАМОЧНІКІ

# Чаго вы не ведаеце аб сваім халадзільніку

**Калі вы працягваеце думаць, што ваш халадзільнік — гэта проста шафа, у якой захоўваецца ежа, значыць вы аб ім нічога не ведаеце. У дадатковых магчымасцях халадзільніка пераканайцеся самі.**



❑ **Букет кветак**, жыццё якога вы хочаце падоўжыць, загарніце ў намочаную халоднай вадой газету і пакладзіце ў вялікі поліэтыленавы пакет. Захоўвайце яго ў аддзяленні для агародніны хоць некалькі дзён. Пры жаданні выстаўляйце кветкі на дзень у вазу, а «начаваць» адпраўляйце ў халадзільнік.

❑ **Магнітафонныя касеты** могуць захоўваць на ніжняй паліцы халадзільніка меламаны і знатакі высакаякасных магнітафонных запісаў: прыроднае размагнічванне з-за цеплавога руху магнітных часцінак у такіх умовах значна запавольваецца.

❑ **Фотаплёнка** (пераважная большасць яе сартоў) проста мае патрэбу ў халадзільніку. Нездарма на яе ўпакоўцы звычайна вызначана тэмпература для працяглага захоўвання (+4... 10°). Тэрмін прыдатнасці намнога павялічваецца, а адчувальнасць, кантрастнасць і колеравы баланс даўжэй захоўваюцца нязменнымі.

❑ **Электрычныя батарэйкі**, купленыя ў запас, пры захоўванні ў халадзільніку падоўжаць свой тэрмін годнасці. Толькі перад тым як пусціць іх у справу, дайце батарэйкам сагрэцца да пакаёвай тэмпературы. У ахалоджанай батарэйцы электралітычныя рэакцыі ідуць запаволена, і вам спачатку можа падацца, што яна «не цягне».

❑ **Чаравікі вашых дзяцей**, якія сталі малымі, таксама дапаможа разнасіць халадзільнік. Пакладзіце ў іх трывалыя поліэтыленавыя пакеты, заліце ўнутр ваду і замарозьце ў маразільніку. Як вядома, вада пры замярзанні расшыраецца, з 10 аб'ёмных частак вады атрымліваецца 11 частак лёду. Так што ёсць шанц павялічыць старыя чаравікі памеры на два. Ідэя гэта належыць англічаніну Р. Далю, няхай ён і адказвае за вынікі.

❑ **Нейлонавыя панчохі і калготкі** таксама варта іншы раз класці ў халадзільнік. Калі гэта новыя калготкі, пакладзіце іх у ванначку для лёду, заліце вадой і замарозьце! Даўшы ім затым адтаяць, адцісніце, высушыце і насіце на здароўе. Кажуць, што пасля такой апрацоўкі гэтыя вырабы носяцца ўтрая даўжэй.

**НАРЫХТОЎКІ Ў ЗАПАС**

❑ Хлеб можна купляць у запас амаль на тыдзень і захоўваць у халадзільніку ў шчыльна закрытай каробцы: яна не дазволіць хлебу зачарсцвець, а нізкая тэмпература захавае ад цвілі. У маразільным жа аддзяленні хлеб захоўваецца свежым месяцамі.

❑ Пірагі, кексы, рулеты, што засталіся ад свята, цудоўна захаваюцца ў маразільнай камеры. Шчыльна загарніце іх у поліэтылен або фольгу, каб не пранікала паветра, і схавайце да неабходнага выпадку. Калі спатрэбіцца, не размарожваючы падагрэйце ў духоўцы або мікрахвалёвай печы ў закрытай пасудзіне — і ніхто не паверыць, што іх не спяклі толькі што. Праўда, гэтая парада не датычыцца пірагоў з капустай, цыбуляй, яйкамі — замарожванне пагаршае смак начыння.

❑ Усе добра ведаюць, што ў маразільнай камеры можна замарозіць кроп, пятрушку, сельдэрэй, ягады і садавіну.

**Цяпер вы ведаеце аб сваім халадзільніку ўсё або амаль усё.**

-1363-

# ЛЮДСКАЯ ЗАЙЗДРАСЦЬ МОЖА НАШКОДЗІЦЬ ВАДАЛЕЯМ, ЯК І ЗАЛІШНЯЯ ДАВЕРЛІВАСЦЬ — ШАЛЯМ

### *УСХОДНІ ГАРАСКОП НА НАСТУПНЫ ТЫДЗЕНЬ*

КАЗЯРОГІ атрымаюць больш чым заманлівую прапанову ў галіне інвесціравання сваіх капіталаў. Зоркі гавораць, што вам не варта доўга над ім раздумваць, бо прыбытак будзе адчувальны, а затраты мінімальнымі. Дзяржаўныя служачыя атрымаюць нарэшце чаканае павышэнне па службе і значную прыбаўку да жалавання. У асабістым плане нежанатыя канчаткова пасварацца з блізкім чалавекам, аднак тут лепш прыслухацца да парады сваіх бацькоў. Наступны тыдзень асабліва спрыяльны для маладых пар.

Плённы этап чакае ВАДАЛЕЯЎ. Вам неабходна кароткая паўза ў рабоце, каб набрацца сіл перад паваротным момантам у станаўленні кар'еры. Зоркі не раяць вам дзяліцца творчымі планамі з супрацоўнікамі, людская зайздрасць можа ўсё сапсаваць. Нішто не павінна перашкодзіць адзінокім жанчынам удзяляць больш увагі сваёй знешнасці і здароўю. Сямейныя пары многае выйграюць, калі ў выхадныя адпачнуць на ўлонні прыроды.

РЫБЫ будуць заняты работай над умовамі кантрактаў, якія абяцаюць вялікія матэрыяльныя паступленні. Звычайным служачым лёс падкіне доўгачаканую магчымасць бліскуча праявіць уласныя таленты. Працуючым жанчынам, наадварот, стане нясцерпна сумна ў офісе і яны адчуюць настойлівую патрэбу знайсці сабе новае месца. Закаханыя, але тыя, што не знаходзяцца ў шлюбе, будуць праводзіць усе вечары разам.

Быць асцярожнымі і запасціся цярплівасцю раяць зоркі АВЕНАМ. Каб пазбегнуць незаслужаных абвінавачанняў у нядобрасумленнасці, служачым давядзецца больш старанна ставіцца да дакументацыі, беспрацоўным неабходна на няпэўны час развітацца з надзеяй знайсці добрае месца. У адносінах з блізкімі неабходна праяўляць максімум далікатнасці. У гэтыя выхадныя лепш не рабіць і паездак за горад.

ЦЯЛЬЦАМ трэба будзе дэталёва і ўдумліва прааналізаваць умовы партнёрства ў новай справе з адным з членаў сям'і. Калі справа падасца вам даволі рызыкоўнай, але вы не адважваецеся адмовіць сваяку, пажадана звярнуцца па параду да чалавека, якому дарагія вашы інтарэсы. Нялішнім будзе таксама дазволіць сабе расслабіцца і прысвяціць час свайму хобі.

У БЛІЗНЯТ наспявае канфлікт з супрацоўнікамі, якія паспрабуюць паставіць пад сумненне ваш аўтарытэт. Не варта звяртаць на гэта ўвагі, таму што беспадстаўныя абвінавачанні ніяк не адаб'юцца на справах. Выдатныя перспектывы на наступным тыдні маюць урачы, адвакаты, інжынеры. У сям'і будзе захоўвацца поўная ідылія.

Напружаныя дні чакаюць РАКАЎ. Ім неабходна адмаўляцца ад усіх дзелавых прапаноў і разлічваць толькі на ўласныя сілы. Палітыкам пагражае чарговае сутыкненне з процілеглым лагерам, вас паспрабуюць уцягнуць у чарговы скандальны разбор. Памятайце, вам усё пад сілу, і недалёка той час, калі вы апынецеся на вяршыні палітычнага алімпа. Вакол добрасумленных служачых будзе панаваць атмасфера дружалюбнасці і ўзаемаразумення. Новае захапленне ўдыхне ў вас новыя сілы і натхненне.

ІЛЬВЫ будуць разрывацца на рабоце пад лавінай выгадных спраў, што абернецца якаснымі зменамі ў вашым матэрыяльным становішчы. Тым, хто займаецца продажамі, каштоўнымі паперамі, журналістыкай, трэба прыняць магчымую прапанову аб змене профілю, калі, зразумела, вас не задавальняе цяперашняе месца. У адносінах са сваякамі трэба захоўваць такт і разуменне. Закаханым трэба быць гатовым да павароту ў адносінах з паклоннікам — вам прапануюць руку і сэрца.

Доўгачаканы спакой настане ў ДЗЕВЫ, бо самае горшае ўжо мінула. Аматары містыкі і астралогіі сустрэнуцца з цікавым чалавекам, што можа быць карысным для вас. У інтымных адносінах пераканайцеся ў шчырасці пачуццяў выбранніка, перш чым адважыцца на які-небудзь сур'ёзны крок.

Надзвычайная загружанасць прымусіць ШАЛІ штодзённа браць звышурочныя. Пакіньце без увагі злыя чуткі, захоўвайце спакой і поўнасцю прысвяціце сябе справе. Залішняя даверлівасць можа сапсаваць адносіны з роднымі, але, будзьце ўпэўненыя, вы лёгка ўладзіце канфлікт, які наспявае. Рамантычнае захапленне пагражае перарасці ў страсць, таму пастарайцеся спакойна ацаніць сітуацыю і наступствы, якія з яе вынікаюць.

СКАРПІЁНАМ трэба ўзважана ставіцца да ўсіх новых праектаў. Імкненне да лёгкай выгады можа канчаткова разбурыць вашы дасягненні. Зоркі прапануюць вам часцей бываць на рабоце, нават ва ўрон сваёй сям'і. Рэкамендуюцца таксама дзелавыя паездкі і заняткі спортам. Не пашкодзіць і большая ўвага да процілеглага полу.

СТРАЛЬЦОЎ чакае не вельмі ўдалы тыдзень. Каб засцерагчыся ад непрыемнасцяў на рабоце і дома, паедзьце і праведайце бацькоў. Спатканне з каханым чалавекам пройдзе гладка, калі пазбягаць балючых тэм і адкласці на потым размовы аб вяселлі.

**Аляксей КАЧАЛІН, кар. ІТАР—ТАСС,**
г. Дэлі.

## НАШ ДОМ

# «Маркіза» на акне

У мінулым выпуску «Хатняя энцыклапедыя» давала парады, як пашыць прыгожыя гардзіны на вокны. Калі ў вас хопіць цярплення, прапануем вашай увазе яшчэ адзін «эксклюзіўны» варыянт шторы з ламбрэкенам, якую можна пашыць па свайму густу. На дапамогу прыйдуць нашы малюнкі. А вось у плане колеру раім спыніцца на двух:

■ **белы матавы шоўк, белая шоўкавая тасьма для вертыкальнага адстрочвання, белыя шоўкавыя махры па нізе, белыя шоўкавыя кутасы (даўжэйшыя за махры ў 1,5—2 раза);**

■ **бэжавы шоўк, бэжавая шоўкавая тасьма, карычнева-бэжавыя махры і ў тон ім кутасы.**

Пры шыцці шторы залажыце складачкі, як паказана на малюнку. Затым разлічыце, колькі ў вас будзе вертыкальных строчак, і пазначце іх. Тасьму перад шыццём неабходна замачыць на суткі да поўнай усадкі.

Расход тканіны (пры разбіўцы па чарцяжы) на 1 м гатовай шторы — 2,20 м плюс па 5 см на падгінанне зверху і знізу.

Калі штора будзе гатовая, яе трэба прымацаваць да карніза кручкамі праз кожныя 2-3 см.

Пасля мыцця такую штору лепш сушыць, падвешваючы яе за «бок». Пры гэтым усе складачкі расправяцца, застанецца крыху падкарэкціраваць прасам.

Запэўніваем вас, што вашы шторы будуць выглядаць значна прыгажэйшымі, чым купленыя, бо ж вы стараліся, шыючы іх.

## А ХТО ВЫ?

# Чатыры аблiччы бацькоў

**Як павінен паводзіць сябе бацька з дзецьмі? Быць суровым, строгім, трымаць дзіця «на адлегласці», як гэта было ў мінулым стагоддзі, ці быць «прыяцелем», да якога дзеці звяртаюцца па імені? Як вядома, бацькі абыходзяцца са сваімі дзецьмі па-рознаму. Даследчыкі гэтых праблем вылучылі чатыры дастаткова тыповыя групы.**

**Забеспячэнец** — разумее сваю ролю галоўным чынам як асоба, якая павінна даваць грошы. Калі ўзнікае неабходнасць, ён здольны купіць дзецям дарагія лыжы або фарбы, але, акрамя гэтага, ён хацеў бы, каб яго пакінулі ў спакоі, не даймалі сваімі праблемамі, а за суцяшэннем ішлі да бабулі або маці.

**Чуллівы** — у яго на першым плане эмоцыі, таму ён стараецца як можна больш часу прысвячаць дзецям. Калі ён абяцаў сынам пайсці з імі ў кіно, то слова стрымае.

**Самадзержац** — хоча, каб яго даручэнні былі строга выкананыя. Ён не прымае пярэчанняў. Спор з дзецьмі яго злуе.

**Патрыярх** — уплывае на сваю сям'ю галоўным чынам скрозь прызму перавагі. Нават калі не гаворыць аб гэтым, усімі сваімі паводзінамі гэта падкрэслівае — глядзіце, які ў вас дасціпны (працавіты, кемлівы, знаходлівы і г. д.) татачка.

Які тып, на вашу думку, найбольш варты пераймання?

-1364-

## ВЯСКОВАМУ ГАСПАДАРУ

# На двары — дровы

Звычайныя «ко́злы», на якіх пілуюць дровы, складаюцца з чатырох пconfigured перакладзін, збітых накрыж і злучаных з цэнтральным брусам. Але на такіх «козлах» добра распілоўваць доўгія бярвёны. Кароткія ж цуркі пілаваць будзе значна зручней, калі ўздоўж крыжавінаў пакласці дзве дошкі (гл. мал.)



Найбольш рацыянальным спосабам захоўвання распілаваных бярвенняў лічыцца ўкладка дроў на рамах, вырабленых з брусоў. Бярвенні пры такім складванні не займаюць шмат месца і хутка прасыхаюць. Ёсць і іншы, больш просты варыянт захоўвання. Забіваюць драўляныя або металічныя калы і праз іх на розных узроўнях прапускаюць драўляныя рагулькі, якія звязваюць паленне.

**АСІНАВЫЯ НЕ ГОРШЫЯ**

Самымі лепшымі дровамі лічацца бярозавыя, яны даюць больш цяпла. Але бярозавая драўніна — драўніна дэфіцытная. Нікольkі не горшыя за бярозавыя дровы асінавыя. Гараць яны высокім полымем і не толькі не кураць, але і ачышчаюць комін ад сажы. Варта папаліць печ некалькі разоў асінавымі дровамі, як сажа ў коміне размякчаецца, разрыхляецца і ён ачышчаецца.

Добра карыстацца асінай і тады, калі трэба пазбегнуць сажы і гару пры паленні пячэй-каменак у лазні. Доўгія языкі полымя асінавых дроў «аблізваюць» камяні-валуны і ачышчаюць іх ад сажы. Выдатна размякчае сажу і ачышчае комін спаленае ў печы шалупінне бульбы.

## ПАРАДЫ БЫВАЛЫХ

# Усю, да кропелькі!

Паскорыць сушэнне бялізны пасля мыцця можна, калі пры дапамозе прышчэпак прычапіць да яе ніжняга краю ліст газеты або чыстую анучу. Папера або тканіна будуць хутка ўсмоктваць ваду, якая збіраецца ўнізе адзення.



# Бясконцы йогурт

Для таго, каб у хатніх умовах мець заўсёды шклянку-другую йогурту, купіце слоічак не фруктовага йогурту, дабаўце 2 ст. лыжкі ў шклянку падагрэтага малака і пакіньце ў цёплым месцы да закісання. Затым пастаўце шклянку ў халоднае месца яшчэ на суткі. Гатовы йогурт можна скарыстаць для прыгатавання новых порцый.

-1365-

